18 сакавіка 2016 | № 11 (476)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Другое дыханне ГУАМ**
стар. 9

**4 ІНЕРЦЫЯ ЯК ФАКТАР РАЗВІЦЦЯ**

«Нябачная рука» кіруе суб'ектамі рынку, але беларуская мадэль не прадугледжвае іншага суб'екта, акрамя ўладнай «вертыкалі»

**6 ЦІ МОГ БЫЦЬ СССР ІНШЫМ?**

17 сакавіка 1991 года адбыўся рэферэндум, на якім павінен быў вырашыцца лёс СССР. Ад удзелу ў рэферэндуме адмовіліся прыбалтыйскія рэспублікі, Малдова, Грузія і Арменія. Не ўсё проста было і ў БССР



**10 ПІЛЬНАЯ ПІЯНЕРВАЖАТАЯ**

Літвінава Антаніна заявіла, што вучні Цыпрынскі, Бартушык, Радзевіч і іншыя ўсяляк стараліся зрываць палітычна-масавыя мерапрыемствы ў класе, якія яна праводзіла. У адну з нядзель зусім кінулі школу, збіраліся ісці за Буг, а перад гэтым абяцалі парэзаць яе на кавалкі

**11 ХАЙ БУДЗЕ НА ПАЦЕХУ МАСКВЕ...**

Кароткае жыццё Кастуся Каліноўскага абарвалася ў 10.30 раніцы 22 сакавіка (па новым стылі) 1864 года. Якія былі апошнія думкі



# Нічога асабістага, проста грошы

## «Грошы скончыліся зусім», — першая рэакцыя некаторых маіх знаёмых на затрыманне Юрыя Чыжа



Сяргей ПУЛЬША

Весткі аб затрыманні Чыжа з'явіліся ўвечары ў пятніцу, 11 сакавіка. 13 сакавіка, нягледзячы на выходны, КДБ патлумачыла, што алігарх затрыманы супрацоўнікамі гэтага ведамства па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч. 2 арт. 243 КК (ухіленне ад выплаты падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры).

Разам з Чыжом затрыманы яшчэ шэраг асобаў, якія падазраюцца ў здзяйсненні і саўдзеле ў злачынстве. Усе затрыманыя знаходзяцца ў СІЗА КДБ. Праводзяцца следчыя дзеянні і неабходныя аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы.

Можна паверыць, што Чыж не плаціў падаткі. Але вы можаце ўявіць краіну, дзе такімі «ўхіленцамі» займаецца не Міністэрства па падатках і зборах і не Камітэт дзяржкантролю, а КДБ? Структура, якая адказвае (па ідэі) за дзяржаўную бяспеку?

З-за блізкасці Чыжа да Лукашэнкі адразу ўзнікла шмат версіяў затрымання. Першую з іх выказаў Аляксандр Фядута. Маўляў, пасля зняцця еўрапейскіх санкцый з кіраўніцтва Беларусі «дзяржаўныя алігархі» сталі ў чаргу за крэдытнымі лініямі заходніх банкаў. Чыж, дзякуючы сваім сувязям і разгалінаванаму бізнесу, быў у гэтай чарзе, зразумела, першым. І нейкі «младаалігарх» вырашыў пасунуць канкурэнта.

«Арышт Чыжа азначае, што нейкая буйная дамоўленасць па крэдытнай лініі дасягнутая. Што камусьці з патэнцыйных супернікаў Чыжа да зарэзу патрэбныя грошы. Гэта не барацьба ўлады з алігархамі, а сутычка старэйшага пакалення беларускіх дзяржаўных капіталістаў з малодшым», — піша Фядута.

Версія даволі сумнеўная, хаця б таму, што санкцыі — санкцыямі, а заходнія банкі наўрад ці будуць інвеставаць буйныя грошы ў «беларускую мадэль», якая зараз трашчыць па швах. Ні ад увядзення санкцый, ні ад іх скасавання інвестыцыйны клімат у Беларусі не змяніўся.

Дый у якую галіну групы кампаній «Трайпл» Юрыя Чыжа можна ўкласці гэтую «буйную крэдытную лінію»? Хіба што толькі ў СТАА «НафтаХімТрэйдынг». Астатнія накірункі дзейнасці «Трайпла» — будаўніцтва, вытворчасць будматэрыялаў, безалкагольныя напоі, мясцовы турызм, сельская гаспадарка, фармацэўтыка, рэстаранны бізнес і нават рытэйл (сетка гіпермаркетаў ProStore) зараз перажываюць не лепшыя часы.

Канешне, мажліва, што нейкі «младаалігарх» захацеў «аджаць» у Чыжа бізнес, але зрабіць гэта можна было і менш гучнымі сродкамі. Тым больш, што па выніках першага паўгоддзя мінулага года «Трайпл» з паспяховага стаў стратным: сукупны аб'ём стратаў склаў 84,4 мільярда рублёў.

Другую версію выказаў палітык Анатоль Лябедзька. Маўляў, пасля зняцця санкцый Юрый Чыж вырашыў «выслізнуць у прыадчыненыя дзверы», — вывезці частку бізнесу і капітал у больш спрыяльнае месца, чым Беларусь. «Больш спрыяльным» з'ўляецца любое месца, асабліва ва ўмовах, калі краіна коціцца да банкруцтва.

Не верыце ў банкруцтва? Валавы знешні доўг Рэспублікі




Беларусь на 1 кастрычніка 2015 года склаўся ў памеры $38,2 мільярда. А ВУП краіны за 2015 год — $54 мільярды. Паглядзеўшы гэтыя лічбы, любы буйны бізнесоўвец захоча апынуцца ў нейкай іншай краіне.

Можа быць кіраўнік «Трайпла» зрабіў неасцярожны рух, паспрабаваўшы адкрыць рахунак недзе ў Швейцарыі, не паставіўшы папярэдне ў вядомасць і не патлумачыўшы, навошта ён гэта робіць. За што і атрымаў, каб не гарэзнічаў.

Трэцюю версію агучыў палітык і таксама былы «алігарх» Андрэй Клімаў. Маўляў, лічбы ў студзеньскіх «жыроўках» наўпрост вялі да народнага бунта. Лукашэнка даручыў пакараць вінаватых, і іх нібыта пачалі караць — следчыя органы адрапартавалі пра 17 узбуджаных крымінальных спраў, у тым ліку і ў міністэрстве ЖКГ. Нават абяцалі агучыць персаналіі падазраваных і... не агучылі.

«На коне стаіць давер электарату. Яго трэба вяртаць. Натуральна, больш справядліва было б, калі б за жыроўкі пад суд пайшлі міністры і ўрад, але менавіта на іх у гэты складаны час абапіраецца Лукашэнка. Дылема. Прыйшлося ахвяраваць сябрам», — кажа Клімаў.

Зразумела, што не Чыж падпісваў гэтыя «жыроўкі». Але ягоны арышт павінен прадэманстраваць, што «ў краіне недатыкальных няма». І (вось дзіва!) менавіта гэтую тэзу Лукашэнка агучыў 14 сакавіка, на чарговай нарадзе па пытаннях камунальных плацяжоў.

Заўважым, што ў Чыжа гэта не першы арышт. У 2007 годзе яго таксама затрымлівалі па справе тагачаснага кіраўніка «Белнафтахіма» Аляксандра Бароўскага. Сам алігарх адмаўляў арышт, але злыя людзі сцвярджалі, што Чыжа адпусцілі праз тры дні пад падпіску аб нявыездзе.

Хутчэй за ўсё, «справа Чыжа» — проста пужалка. Да суда яна наўрад ці дойдзе. Як звычайна, будуць «кампенсаваныя страты бюджэту», і на гэтай падставе Лукашэнка вызваліць Чыжа ад крымінальнай адказнасці. І, як заўсёды па восені, запросіць да сябе ў Дразды збіраць гарбузы і бульбу. Нічога асабістага — проста грошы.

**Працяг тэмы на стар. 5**

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Чарговы пратакол за акцыю прадпрымальнікаў

**Грамадскі актывіст з Баранавічаў Рыгор Грык атрымаў копію пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні па ч. 3 арт. 23.34 КаАП РБ (парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства паўторна на працягу года) ад 28.02.2016 г.**

Суправаджальная запіска за подпісам начальніка Цэнтральнага РАУС Мінска падпалкоўніка Артура Шахлая ўтрымлівае ўказанне на тое, што копія пратакола накіроўваецца Рыгору Грыку, а таксама тлумачацца правы і абавязкі асобы, якая прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасці. Пры гэтым ліст прыйшоў актывісту з Баранавіцкага ГАУС.

Рыгор Грык удзельнічаў у мітынгу прадпрымальнікаў 28 лютага на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску. Ён правёў флэш-моб: апрануў касцюм, стылізаваны под канцлагерную робу, у руках трымаў плакат з вершаванымі радкамі вядомага паэта Генадзя Бураўкіна: «Адкінем страх, сумненне і ныццё. За Беларусь, за лепшае жыццё!». Падчас мітынгу міліцыянты да яго не падыходзілі, заўваг не рабілі і пратакол не складалі.

Праваабаронца Сяргей Гоўша адзначае, што пратакол складаўся без Грыка.

### САЛІГОРСК. Антыкрызісны мітынг забаранілі

**Салігорскія ўлады забаранілі правядзенне антыкрызіснага мітынгу і пікета за канстытуцыйныя правы ў беларускай сталіцы шахцёраў, арганізатарам якіх выступаў мясцовы актывіст БХД Уладзімір Шыла.**

Мітынг на стадыёне «Шахцёр» намеснік старшыні Салігорскага райвыканкаму па ідэалогіі Мікалай Маскевіч адмовіўся ўзгадняць нібыта з-за парушэння некаторых патрабаванняў закона «Аб масавых мерапрыемствах». Пікет за канстытуцыйныя правы спадар Маскевіч забараніў, спаслаўшыся на неадпаведнасць месца яго правядзення пераліку месцаў, вызначаных мясцовым райвыканкамам.

Уладзімір Шыла гэткае рашэнне мясцовых уладаў лічыць неправавым і парушаючым не толькі яго правы, але і тых грамадзян, якія збіраліся прыняць удзел у запланаваных мірных сходах.

Ніхто так і не патлумачыў, для дасягнення якіх мэтаў былі абмежаваныя нашы правы на свабоду выказвання свайго меркавання і правядзенне мірных сходаў. Хацелася б нагадаць, што Камітэт па правах чалавека ААН, куды я неаднаразова звяртаўся з аналагічнымі праблемамі, патрабуе ад дзяржавы садзейнічаць ажыццяўленню права на мірныя сходы, а не імкнуцца яго залішне і празмерна абмежаваць», — кажа актывіст БХД.

Мэтазгоднасць судовага абскарджання рашэнняў Салігорскага райвыканкаму Уладзімір Шыла бліжэйшым часам плануе абмеркаваць з мясцовымі праваабаронцамі. Пакуль жа рэалізаваць свае права на свабоду выказвання меркавання і правядзенне мірных сходаў актывіст плануе ў суседнім Капыльскім раёне, дзе прадстаўніку Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Віктару Дашкевічу дазволілі правядзенні мітынгу да Дня Канстытуцыі.

### БРЭСТ. Спаліць пудзілы не атрымалася

**Супрацоўнікі міліцыі затрымалі Віталя Казака, які збіраўся спаліць у парку пудзілы «бюракрата» і «карупцыі».**

Інцыдэнт здарыўся 13 сакавіка каля вогнішча ў брэсцкім парку воінаў-інтэрнацыяналістаў, дзе ладзіліся народны гулянні «Бывай, Масленіца!».

Грамадскі актывіст Віталь Казак прынёс у парк зробленыя сваімі рукамі пудзілы «бюракрата» і «карупцыі», якія падрыхтаваў адмыслова для таго, каб спаліць у традыцыйным вогнішчы падчас святкавання Масленіцы. Тым больш, што ў парку існуе традыцыя спальвання падобных пудзілаў: у прыватнасці, сёлета ў вогнішча трапілі пудзілы, на якіх было напісана «інфляцыя», «дармаед», «тэрарыст», «п'янства» ды іншыя словы.

Аднак калі Віталь Казак наблізіўся да вогнішча з самаробнымі пудзіламі «бюракрата» і «карупцыі», да яго падышлі супрацоўнікі міліцыі, патлумачылі, што ён перашкаджае святкаваць, і загадалі прайсці ў службовы аўтамабіль. У выніку праз пэўны час актывіста вызвалілі, але пудзілы не вярнулі.

Віталь Казак, які вядомы ў Брэсце як арганізатар сходаў жыхароў для адстойвання сваіх правоў у канфліктах з мясцовымі ўладамі, не лічыць, што здзейсніў нейкае правапарушэнне. Справа ў тым, што ў мінулыя гады на Масленіцу ў Брэсце спальвалі пудзілы і «бюракрата», і «карупцыі», таму цяперашняя забарона выглядае вельмі дзіўна.

**Паводле spring96.org**

# Усё лепшае — для кароў

Зінаіда ЦІМОШАК



**Два гады жыхары вёскі Цалевічы Слуцкага раёна змагаюцца супраць руху вялікагабарытнай сельскагаспадарчай тэхнікі, якая вывозіць гной, сянаж з малочна-таварнага комплексу па вуліцы Працоўная.**

Вёска Цалевічы месціцца ў 14 кіламетрах на паўднёвы захад ад Слуцка. Дабротныя вясковыя дамы, заасфальтаваная вуліца сведчаць аб тым, што гэтае сяло яшчэ жывое. Вёска ўваходзіць у СПК «Вітка-Агра», які спецыялізуецца на малочна-таварнай вытворчасці.

Адразу за вёскай з левага боку ад дарогі, якая вядзе да аграгарадка Танежыцы, узвышаецца,ззяючы свежымі фарбамі, дабротны сучасны жывёлаводчы комплекс на 720 кароў, уведзены ў строй у 2014 годзе.

Вуліца Працоўная сустрэла нас церпкім водарам гною, які абрамляе шэра-зялёнымі паласамі заасфальтаваную дарогу з абодвух бакоў.

«Не жывём, а пакутуем, — скардзіцца пенсіянер Аляксандр Іванавіч Юркевіч. — Што нас чакае — зразумелі яшчэ падчас будаўніцтва ў 2013 годзе: вялікагрузныя машыны з бетонам, пяском, канструкцыямі бегалі тут з ранку да вечару і дурылі галаву. Думалі, што жыццё наладзіцца пасля заканчэння будаўніцтва, — ды дзе там! На змену будаўнічай тэхніцы прыйшлі 20-тонныя калгасныя трактары».

Справа ў тым, што вуліца Працоўная стала асноўнай транспартнай артэрыяй, якая злучае комплекс і сіласныя ямы з палямі і іншымі гаспадаркамі «Агра-Вітка». Жыхары вёскі звярталіся ў слуцкі райвыканкам яшчэ да будаўніцтва комплексу, прасілі, каб для асноўнай сельскагаспадарчай тэхнікі прадугледзелі іншую дарогу ў абход іхняй вуліцы. Да таго ж непадалёк ад цэнтральнай дарогі Слуцк — Танежыцы знаходзяцца яшчэ некалькі ферм. Калі злучыць комплекс з імі па прамой, не патрэбна б было рабіць вялікі круг з заездам на вуліцу Працоўная.

У звароце да Лукашэнкі вяскоўцы нават прыводзілі аргументы, што будаўніцтва прамой дарогі ад комплексу і сянажных ямін да трасы Селішча–Танежыцы даўжынёй у 400–500 метраў у далейшым дазволіла б менш траціць грошай на салярку і бензін і было б ідэальным рашэннем праблемнай сітуацыі.

Аднак, як вынікае з дакументаў перапіскі, дырэктар «Вітка-Агра» Д. Чырэц і іншыя кіраўнікі раённага і абласнога маштабу сцвярджаюць, што праектна-сметная дакументацыя прайшла экспертызу, і ўсё добра.

«У выніку ісхняга праекту «дарога жыцця» для кароў ператварылася ў дарогу пакут для людзей, — распавядае Юркевіч. — Прачынаемся, як каровы, у 4 гадзіны разам з гулам магутнага трактара, які вязе на ферму корм. Пасля ідуць малакавозы, затым чарга даходзіць да магутных трактароў з сенажом, гноем і саломай. Падчас нарыхтоўкі кармоў, закладвання сянажных ямін на вуліцы стаіць неймаверны грукат. Вуліца прапахла гноем і сенажом. Летам вокны не адчыняем. На вуліцу выходзім толькі ў гумавых ботах, якія лягчэй адмыць ад гною. Летам з гораду прыязджаюць унукі — баімся выпусціць на вуліцу. Не вуліца, а падраздзяленне фермы. Калі ідуць дажджы — нечыстоты змываюцца з дарогі і ляцяць у двары, да калодзежаў. Бывае, як пасярэдзіне вуліцы нападае гною, дык прысыпаюць трактар з мяцёлкай. Ён лятае па вуліцы ды разганяе гной да нашых платоў, калодзежаў, пад ногі».

Калектыўных зваротаў вяскоўцы напісалі шмат — усё без толку. 3 сакавіка Аляксандр Іванавіч пабываў на прыёме ў старшыні Мінскага аблвыканкама Сямёна Шапіры — без вынікаў.

«Яны думаюць толькі пра кароў. І калі ўжо чыноўнікі пачнуць разумець, што нешта трэба рабіць і для людзей?» — задае рытарычнае пытанне Аляксандр Юркевіч.

# Памяці Сяргея Ханжанкова



**У сераду, 16 сакавіка, прыйшла сумная вестка — пайшоў з жыцця вядомы грамадскі актывіст, былы палітвязень Сяргей Ханжанкоў.**

Апошні год ён цяжка хварэў на анкалогію, прайшоў не адзін курс хіміятэрапіі, улетку перажыў аперацыю. Літаральна на днях — 13 сакавіка — Сяргею Ханжанкову споўнілася 74 гады.

З гэтай нагоды Марат Гаравы напісаў:

«Для беларусаў Сяргей Ханжанкоў — жывая легенда, сапраўдны маральны аўтарытэт, які ўвасабляе сумленне, гонар і годнасць нацыі. Для мяне ён — вельмі цёплы, далікатны, сціплы, шчыры і адкрыты чалавек, якому хочацца пажадаць аднаго — жыцця. Каб праз год сярод сваякоў і сяброў мы адзначылі з Сяргеем Мікалаевічам ягоны 75-гадовы юбілей.

Я абдымаю цябе, дарагі Сяргей, з верай у тое, што прыйдзе час, калі такіх змагароў за вольную, дэмакратычную і незалежную Бацькаўшчыну адпаведным чынам ушануе і дзяржава. Бо сапраўдная цывілізаваная і моцная дзяржава абапіраецца, у першую чаргу, на такіх высакародных людзей».

Сяргей Ханжанкоў нарадзіўся 13 сакавіка 1942 года на Калыме — у пасёлку Усць-Уціны Магаданскай вобласці Расіі ў сям'і інтэлігентаў-палітвязняў: бацька — студэнт Маскоўскага інстытута інжынераў транспарту — быў асуджаны ў 1935 годзе за антысавецкую агітацыю, а дзед па матчынай лініі — эсэр — у 1929-м за барацьбу супраць калгасаў. У 1955 годзе сям'я атрымала дазвол пакінуць Калыму і пасяліцца ў Мінску. З маленства Сяргей прызвычаіўся да кніг, разам з бацькамі слухаў замежныя радыёстанцыі, перадачы якіх у Мінску ледзьве было чуваць з-за глушылак. У 1959 годзе юнак стаў студэнтам Беларускага політэхнічнага інстытута, а праз тры гады разам з Віктарам Храпавіцкім і Рыгорам Сярогіным стварыў моладзевую падпольную антыкамуністычную арганізацыю.

У 1962 годзе 20-гадовы Сяргей Ханжанкоў з трыма аднадумцамі хацелі падарваць вежу каля касцёла Святога Роха, якая глушыла «варожыя галасы» на тэрыторыі Мінска і ваколіц. Праз здраду паплечніка групу раскрылі, а ўдзельнікаў арыштавалі. У 1963 годзе суд даў Сяргею Ханжанкову 10 гадоў зняволення, якія палітвязень адбыў «ад званка да званка» ў лагеры для асабліва небяспечных злачынцаў у Мардовіі. Пасля лагера Сяргей Ханжанкоў доўга хварэў на сухоты.

У 1973 годзе вярнуўся ў Мінск, дзе працаваў інжынерам у Беларускім дзяржаўным інстытуце праектавання аўтадарог і на Станкабудаўнічым заводзе імя Кірава. У 1976 годзе ў Падмаскоўі спрабаваў арганізаваць сустрэчу былых палітвязняў, аднак усе яе ўдзельнікі былі затрыманыя КДБ. У 1990 годзе ўдзельнічаў у I з'ездзе савецкіх палітвязняў у Санкт-Пецярбургу. Сяргей Ханжанкоў не рэабілітаваны і ніколі гэтага не дамагаўся.

На жаль, адыходзяць лепшыя. Светлая памяць! Шчырыя спачуванні родным і сваякам.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Бізнес па-беларуску

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Зразумела, галоўнай падзеяй тыдня стала «раскулачванне» буйнога бізнесу ў Беларусі. Пад раздачу патрапілі самыя «святыя каровы» — Юрый Чыж і Яўген Баскін. Што з гэтага атрымаецца? Анічога.**



Фота www.nifdugu.ru

Бізнесоўцам, якія запанікавалі пры гэтых звестках, трэба ўзяць сябе ў рукі і збіраць грошы. Хутчэй за ўсё, з арыштаў Чыжа і Баскіна аніякіх крымінальных спраў не атрымаецца. Бо выйсце для ўсіх паказаў старшыня КДБ Валер Вакульчык. Распавядаючы пра гучныя справы і нібыта спробу ўцёкаў Чыжа на хуткасці 220 км/г, да нечага ён згадаў лёс былога сенатара і таксама бізнесоўца Андрэя Паўлоўскага.

Напрыканцы мінулага года супраць Паўлоўскага была распачата крымінальная справа па тым жа артыкуле, у чым падазраецца і Чыж, — нясплата падаткаў у асабліва буйным памеры (арт. 243 ч. 2 КК РБ). Дык вось, па словах Вакульчыка, Паўлоўскі кампенсаваў страты, нанесеныя ягонымі дзеяннямі дзяржаве, у памеры 20 мільёнаў долараў. І быў пазбаўлены крымінальнай адказнасці.

Як мы пісалі раней, некалькі «гучных карумпаваных чыноўнікаў» у гэтым годзе выйшлі на волю з турмаў і былі прызначаныя кіраваць сельскімі гаспадаркамі альбо не вельмі паспяховымі прадпрыемствамі. Замест прызначаных ім тэрмінаў зняволення, з улікам амністыяў і памілаванняў, яны адседзелі толькі паўтара-два года замест пяці-васьмі.

У сувязі з «кампенсацыяй Паўлоўскага» ў $20 мільёнаў у мяне ўзнікае пытанне: колькі ж насамрэч ён скраў у дзяржавы? Калі, з улікам ведання лёсаў сваіх папярэднікаў, з лёгкасцю выклаў суму, у два з паловай разы большую, чым нібыта прынесеная ім шкода (па версіі КДБ, ягоная фірма «Біяком» нанесла шкоды на $8 мільёнаў).

Так што, хутчэй за ўсё, такім жа чынам і Чыжа, і Баскіна проста «пастрыгуць».

Але водгукі гэтых арыштаў ужо чуваць у бізнес-колах. І не толькі ў іх.

Уладальнік аднаго з найбольш паспяховых бізнесаў, адной з самых вядомых прыватных тэкстыльных кампаній Беларусі «Серж» Сяргей Атрошчанка падаў на банкруцтва. Эканамічны суд Мінска ўвёў на ТАА «Серж» трохмесячны ахоўны перыяд.

Кампанія «Серж» была да нядаўняга часу адным з самых буйных вытворцаў ніжняй бялізны і трыкатажу на беларускім рынку. Яна амаль адна (ну, разам з «Мілавіцай») давала надзею на тое, што беларускі легпрам яшчэ

**У сувязі з «кампенсацыяй Паўлоўскага» ў $20 мільёнаў у мяне ўзнікае пытанне: колькі ж насамрэч ён скраў у дзяржавы?**

можна падняць. Аказваецца, нельга.

Раней Атрошчанка сышоў з медыя-бізнесу, закрыўшы сваю газету «Обозреватель». Чым ён зоймецца пасля страты «Сержа», не вядома.

Аднак, зразумела, святое месца не бывае пустое. Адным з накірункаў «імперыі Чыжа» было будаўніцтва. І пасля арышту ўладальніка «Трайпла» Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел прапанаваў спосаб зарабляць грошы на ўтрыманне храмаў.

У інтэрв'ю тэлеканалу СТВ Патрыяршы экзарх усяе Беларусі заявіў, што не бачыць нічога ганебнага ў тым, каб царква будавала даходныя дамы. «Грэкі, калі будуюць у якой-небудзь краіне храмы, прыходы, яны абавязкова пры храме будуюць дом для святара, для прыходу. І даходны дом. І вось гэты даходны дом яны здаюць або ў арэнду, або памяшканні здаюць для крамаў, рэстаранчыкаў, кавярняў, там нешта такое. Атрымліваючы даход, яны тым самым на гэты даход утрымліваюць храм. У нас у Будапешце ёсць такое. І нічога такога ганебнага ў гэтым няма», — сказаў ён.

Ёсць у краіне і некаторыя ў чымсьці добрыя навіны. Напрыклад, інтэрнэт-рытэйлер «Еўраопт» паведаміў аб закрыцці двух з пяці размеркавальных цэнтраў кампаніі — у Мінску і ў Гродне. «У выніку закрыцця размеркавальных цэнтраў у Гродна пазбавіліся працы больш за 100 чалавек, у Мінску — больш за 500. Акрамя таго, кампанія страціла сродкі, інвеставаныя ў стварэнне і абсталяванне складоў: у Гродне страты склалі больш за 1,1 мільёна долараў, а ў Мінску — 1,2 мільёна долараў», — сказаў дырэктар інтэрнэт-крамы Дзяніс Мароз.

«Што ж у гэтым добрага?» — запытаецеся вы. Канешне, кепска, што людзі страцілі працу. Аднак здароўе даражэй. Каментуючы прычыны закрыцця цэнтраў, Дзяніс Мароз сказаў, што «кампанія вымушаная аптымізаваць вытворчыя працэсы і скарачаць выдаткі ў сувязі са стратнасцю сэрвісу, які не можа дасягнуць рэнтабельнасці без наяўнасці поўнага асартыменту тавараў, які ўключае алкаголь і тытунёвыя вырабы».

То бок, праз «Е-дастаўку», насуперак беларускаму заканадаўству, «Еўраопт» вельмі хоча дастаўляць дадому алкаголь і тытунь. Прычым, па інтэрнэце ж не бачна, хто заказвае: паўнагадовы альбо непаўнагадовы, ёсць там бацькі дома ці не... Так што хай лепш зачыняюць, чым алкаголь па хатах развозяць.

Енкі «Еўраопта» з гэтай нагоды спыніў Мінгандаль, адзначыўшы, што рашэнне аб адкрыцці ў краіне інтэрнэт-крам ТАА «Еўрагандаль» прымала ва ўмовах дзейных заканадаўчых абмежаванняў на рэалізацыю алкагольных напояў і тытунёвых вырабаў з прымяненнем інтэрнэт-тэхналогій. А таму само вінаватае ў стратах. Бізнес павінен адпавядаць заканадаўству, а не заканадаўства падстройвацца пад бізнес, ды яшчэ і такі, які можа нанесці шкоду здароўю.

І яшчэ адна цікавая навіна. З рабочым візітам у Мінск прыязджаў віцэ-прэзідэнт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця Алан Пійю. Ён сустракаўся з міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем, дзе «бакі абмеркавалі далейшыя крокі па актывізацыі ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва, надаўшы асаблівую ўвагу пытанню падрыхтоўкі стратэгіі ЕБРР для Беларусі на 2016–2019 гады», паведамляе прэс-служба МЗС. Праект гэтай стратэгіі ЕБРР плануе апублікаваць у красавіку.

ЕБРР з'яўляецца найбуйнейшым інвестарам у рэгіёне Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Зараз ён працуе ў больш чым 30 краінах. Апроч вылучэння сваіх сродкаў банк прыцягвае значныя аб'ёмы прамых замежных інвестыцый.

Папросім крэдыт яшчэ і там?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Уладзімір Мацкевіч



**Знанага філосафа і метадолага паспрабавалі асудзіць за ўдзел у акцыі, на якой ён не прысутнічаў.**

У судзе Цэнтральнага раёна Мінска 15 сакавіка адбыўся адміністрацыйны працэс Уладзіміра Мацкевіча: яго вінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі прадпрымальнікаў на Кастрычніцкай плошчы 15 лютага.

Паказанні супраць яго давалі супрацоўнікі АМАПу Ілля Якаўлеў і Аляксандр Шушко, якія заявілі, што пазналі Мацкевіча як аднаго з удзельнікаў мітынгу. Па іх словах, Мацкевіч стаяў з расцяжкай. Таксама ў працэсе прыняў удзел участковы Дзяніс Трасняк, які склаў пратакол на Мацкевіча за ўдзел у мітынгу.

Сам Мацкевіч раней публічна заяўляў, што ў акцыі ён не ўдзельнічаў. А на судзе паказаў суду квіткі на самалёт: ён вылецеў у Варшаву 14 лютага, а ў Мінск вярнуўся 16-га. Таксама яго адсутнасць у Беларусі пацвярджаецца пагранічнымі штампамі ў пашпарце.

Усе міліцыянты былі папярэджаны аб адміністрацыйнай адказнасці за лжывыя паказанні. Аднак суддзя Вікторыя Шабуня, замест таго, каб адразу прыцягнуць міліцыянтаў за лжэсведчанне, пастанавіла... вярнуць матэрыялы ў РУУС для выпраўлення недахопаў і дапрацоўкі! Сапраўды, самы гуманны і справядлівы суд у свеце!

## Лілія Ананіч



**Міністр інфармацыі Беларусі лічыць папярэджанні Мініфармацыі розным СМІ не карнымі, а захадамі па развіцці айчыннай журналістыкі.**

Пра гэта Лілія Ананіч заявіла падчас анлайн-канферэнцыі на тэму «Медыяпрастора Беларусі ў новых умовах» на сайце БелТА.

У 2016 годзе Мініфармацыі вынесла два пісьмовыя папярэджанні выданням «Наша Ніва» і «Ежедневник» за «размяшчэнне недакладнай інфармацыі і інфармацыі, якая можа нанесці шкоду дзяржаўным інтарэсам». «Ежедневник» патрапіў праз артыкул аб праверцы боегатоўнасці Узброеных Сіл Беларусі. «Публікацыя суправаджаецца фатаграфіяй нямецкай тэхнікі часоў Другой сусветнай вайны. Такая кампіляцыя тэксту і фатаграфіі дыскрэдытуе Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь», — лічаць у Мінінфарме. «Наша Ніва» была пакараная за артыкул у рубрыцы «Меркаванні».

«Гэта не ўмяшанне, а выкананне заканадаўства. Дакладнае выкананне заканадаўства, імкненне да прававой культуры, прытрымліванне журналісцкай этыкі, аб'ектыўнасць, усебаковая падача інфармацыі з дакладнымі фактамі, без абразаў — гэтыя прынцыпы беларускай журналістыкі ніхто не адмяняў. На мой погляд, дзеючае заканадаўства дапамагае развіваць айчынную журналістыку», — зазначыла міністр інфармацыі.

## Сяргей Міхалок



**Не дамогшыся канцэрту ў Беларусі, экс-«Ляпіс» і кіраўнік гурта «Brutto» марыць паехаць ад Беларусі на «Еўрабачанне».**

Прынамсі, такія планы Сяргей Міхалок выбудоўвае на 2018 год. Пра гэта ён напісаў у адкрытым чаце «Brutto» ў Viber.

«Мы занятыя «пераасэнсаваннем» песень «Ляпіса» і перазапісам «Brutto» версій песень «Рамонкі», «12 малпаў», «Чайка», «Бесы» і г.д. Рыхтуем акустыку! І, натуральна, новы паўнавартасны альбом у накідах ужо амаль гатовы. Песні на розных мовах свету — мы ж інтэрнацыяналісты», — піша Міхалок пра бягучыя справы.

«Рыхтуем нумар на «Еўрабачанне», «Кімано» называецца. Завуць ад Албаніі і Сан-Марына, але мы марым паехаць ад Беларусі ці Украіны. Калі нам дадуць канцэрты ў Беларусі — мы падаем заяўку на Еўра–2018», — напісаў Міхалок.

«Мы зробім нумар сусветнага ўзроўню. «Здуб» змаглі, а мы не горш «Здубоў»! (малдоўскі гурт «Zdob si Zdub». — НЧ). Зробім інсталяцыю па фільме «Сем самураяў» і харэаграфію па «Спецназу»!!! З разбіваннем галавой пенапластавай цэглы і бутэлек з ледзянцоў. Прывязем «Еўрабачанне» ў «Чыжоўка-Арэну», — абяцае Міхалок.

а | Азбука паліталогіі

# Інерцыя як фактар развіцця



Сяргей НІКАЛЮК

**«Нябачная рука» кіруе суб'ектамі рынку, але беларуская мадэль не прадугледжвае іншага суб'екта, акрамя ўладнай «вертыкалі». Пачну з цытаты-афарызму: «Ніякі ўрад не можа закладваць у задачы на будучыню рэцэсію». Аўтар выказвання — намеснік міністра эканомікі Аляксандр Забароўскі. Месца нараджэння афарызму — пасяджэнне Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па эканамічнай палітыцы. Дата нараджэння — 3 сакавіка 2016 года.**

Калі пагадзіцца з аўтарам такога неардынарнага выказвання, то ўрад Дзмітрыя Мядзведзева ў Расіі варта прызнаць «ніякім». 3 сакавіка (супадзенне датаў, відаць, выпадковае) газета «Ведамасці» апублікавала артыкул «Расію чакаюць яшчэ тры гады крызісу». Да такой высновы калектыў аўтараў прыйшоў на падставе прагнозу, падрыхтаванага Мінэканамразвіцця.

Спадзяюся, чытачы НЧ ведаюць, якім чынам стан расійскай эканомікі адгукаецца ў Беларусі. А вось узровень інфармаванасці наконт гэтага пытання спадара Забароўскага выклікае здзіўленне. Інакш чым яшчэ можна растлумачыць задачу да 2020 года дамагчыся ў нашай краіне тэмпаў росту ВУП вышэй за агульнасусветныя, якую паставіў перад сабой беларускі ўрад?

На якіх разліках заснаваны такі аптымізм? Можа, на мінулым вопыце? «Наша эканоміка за пяцігодку вырасла на 5,9%», — адрапартаваў дэпутатам першы намеснік міністра, удакладніўшы пры гэтым, што планавалася дасягненне «больш высокага паказчыка». У перакладзе з эзопавай мовы на мову лічбаў удакладненне азначае, што рост ВУП павінен быў скласці 62–68%. Такі паказчык быў зацверджаны на чацвёртым Усебеларускім сходзе.

## Аб'екты vs. суб'екты

У 1777 годзе Адам Сміт склаў спіс умоў эканамічнага росту: мір, нізкія падаткі і разумныя законы. Пры іх выкананні, лічыў аўтар Даследавання аб прыродзе і прычынах багацця народаў, «нябачная рука рынку» (invisible hand of the market) здольная эфектыўна накіроўваць асабістыя інтарэсы вытворцаў на службу грамадству.

Адносіны з «нябачнай рукой рынку» ў беларускай мадэлі не склаліся з першых дзён яе функцыянавання. Нічога дзіўнага ў гэтым няма. «Нябачная рука» кіруе суб'ектамі рынку, а беларуская мадэль нейкага іншага суб'екта, акрамя ўладнай «вертыкалі», не прадугледжвае. Таму тое, што ў нас прынята называць «гаспадарчым суб'ектам», па факце з'яўляецца гаспадарчым аб'ектам.

Згодна з Вікіпедыяй, гаспадарчы суб'ект — гэта асоба, якая самастойна арганізуе сваю дзейнасць і нясе поўную адказнасць за рызыкі, якія ўзнікаюць ад яе дзейнасці, у тым ліку (дадам ад сябе) і за рызыкі ад укаранення навуковых распрацовак.

Асаблівасці асваення навуковых распрацовак гаспадарчымі аб'ектамі адзіны палітык (АП) растлумачыў 3 сакавіка (усё тая ж дата!) падчас прызначэння рэктараў ВНУ.

Першая асаблівасць — гэта наяўнасць галоўнага адказнага па пытаннях укаранення навуковых дасягненняў. Такім у Беларусі з'яўляецца старшыня Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук. Другую асаблівасць ілюструе наступная цытата: «Ён (галоўны адказны) прыйшоў, даў заданне прамыслоўцам. І хай толькі не зробяць. А інакш як? Кіраўнік не хоча, навуковец не можа ці баіцца — і будзем целяпацца».

Вось што значыць «ісці ад жыцця»! Гаспадарчыя аб'екты тым і адрозніваюцца ад гаспадарчых суб'ектаў, што ў адсутнасць выразных заданняў зверху самастойна здольныя толькі целяпацца. І гэта ў лепшым выпадку.

АП далей падкрэсліў, што «Нацыянальная акадэмія навук павінна вызначаць і прапаноўваць прадпрыемствам прарыўныя, выгадныя для дзяржавы тэхналогіі».

Механізм стварэння прарыўных тэхналогій, відаць, прынцыпова нічым не адрозніваецца ад механізму іх укаранення, тым больш, што галоўным адказным за распрацоўку з'яўляецца ўжо знаёмы нам галоўны адказны за ўкараненне. Далей — паводле апісанага вышэй алгарытму: прыйшоў, даў заданне, і хай толькі не зробяць...




## Не што, а як рабіць

«Урад, — тлумачыць АП, — не павінен быць нейкі канторай. Ён павінен сёння (прама пра гэта трэба гаварыць у складанай сітуацыі) у ручным рэжыме кіраваць эканомікай там, дзе гэта трэба, на месцы дапамагаючы ўсім, чым мы можам, прадпрыемствам, губернатарам, старшыням райвыканкамаў, патрабуючы ад іх бездакорнага выканання прынятых рашэнняў і вельмі высокай напружанасці і інтэнсіўнасці».

Рэкамендую перачытаць цытату некалькі разоў. Задача ўрада — дапамагаць «усім, чым мы можам». А што мы можам? Мы можам... патрабаваць. Таму спіс кіраўнічых паслуг урада абмяжоўваецца спісам патрабаванняў.

Нескладана ўявіць сабе дзеянні кіраўніка, які атрымаў такога кшталту дапамогу. Ён пстрыкне абцасамі і тут жа пераадрасуе патрабаванне на ніжэйшы ўзровень. Так кіраўнічы імпульс, народжаны ў скураным імпартным крэсле, аператыўна апусціцца да ўзроўню табурэткі брыгадзіра.

Каб зразумець паводзіны «гаспадара табурэткі», мне спатрэбіцца дапамога этолага (спецыяліста, які вывучае генетычна абумоўленыя паводзіны жывёл і людзей). Адпаведны прыклад я знайшоў у кнізе Віктара Дольніка «Эталагічныя экскурсіі па забароненых садах гуманітарыяў»: «Звернемся да галубоў. Калі ў чарадзе іх няшмат, між імі ўсталёўваецца шэраг супадпарадкаванняў. Голуб, які ўсіх перамагае, заўсёды будзе дамінантам, затым размесцяцца субдамінанты і гэтак далей, да самага ніжэйшага рангу. Час ад часу дамінант дзеўбане субдамінанта (з-за спантаннага выбуху агрэсіі), той пераадрасуе агрэсію на таго, хто стаіць ніжэй на іерархічнай лесвіцы, калі агрэсія дойдзе да голуба, якому дзяўбці няма каго, ён пераадрасуе яе зямлі. Па ланцужку нібы прабег сігнал. Ён нічога не паведаміў, а толькі пацвердзіў іерархію».

А каму пераадрасуе кіраўнічы імпульс брыгадзір? Мяркую, жонцы і дзецям пасля заканчэння працоўнай змены, бо ён, як правіла, не валодае дастатковым адміністрацыйным рэсурсам для супрацьстаяння працоўнаму калектыву.

На першы погляд, мой прыклад з іншай оперы, бо я паставіў знак роўнасці паміж перадачай кіраўнічых каманд і пераадрасоўваннем агрэсіі. Пэўная нацяжка існуе, згодны. Аднак каманды ў стылі «ўзмацніць», «падвысіць» і далей па спісе ніякага дачынення да рэальнага кіраванню не маюць. Як і ў прыкладзе з галубамі, іх мэта (дапускаю, што часам і неўсвядомленая) — пацвярджэнне іерархіі.

Галоўная задача кіраўніка — выпрацоўваць ідэі. Тым, хто сумняваецца ў гэтай кіраўнічай ісціне, прыгадаю 39-гадовага беларускага мільярдэра, заснавальніка кампаніі «Wargaming» Віктара Кіслага. Стварыць кампутарную гульню, колькасць карыстальнікаў якой перавысіла б 80 мільёнаў чалавек, шляхам раздачы каштоўных указанняў у апісаным вышэй стылі, немагчыма.

Сапраўдны кіраўнік тлумачыць сваім падначаленым, не што рабіць, а як рабіць. Прапаную чытачам уявіць сябе на месцы Віктара Кіслага. Рабочая нарада. Вы сабралі сваіх намеснікаў і... загадваеце «прыняць дадатковыя меры для забеспячэння:

- павышэння плацежнай дысцыпліны ва ўзаемаразліках за пастаўленыя тавары, выкананыя работы, аказаныя паслугі;
- развіцця добрасумленнай канкурэнцыі на ўнутраным рынку;
- росту і дыверсіфікацыі экспарту» (цытую паводле тэксту Указа №78 «Аб мерах па павышэнні эфектыўнасці сацыяльна-эканамічнага комплексу Рэспублікі Беларусь»). Уявілі? Атрымалася?

А вось у спадара Забароўскага Указ №78 адмаўлення не выклікаў. Наадварот, свае надзеі на рост беларускага ВУП тэмпамі вышэй за сусветныя ён звязаў з яго падпісаннем.

## Кайданкі ў дэфіцыце

Беларускі ўрад кіраванне эканомікай ажыццяўляе ў ручным рэжыме. Іншага спосабу кіраваць аб'ектамі гаспадарання (дзяўбці субдамінантаў) у прыродзе не існуе. Ручное кіраванне, тлумачыць палітолаг Таццяна Станавая, «гэта замкнёнасць сістэмы прыняцця рашэнняў на кіраўніка дзяржавы і яго адміністрацыю, па прычыне якой урад і рэгіёны не рашаюцца праявіць ініцыятыву і прапанаваць уласную праграму. Гэта калі інерцыя — адзіны шлях развіцця краіны, а ўсе змены ініцыююцца толькі зверху або ў выніку супрацьстаяння нарастаючаму хаосу, страты кантролю за сітуацыяй або сістэмнага збою».

Нарастанне хаосу і страта кантролю — непазбежная стадыя ў развіцці эканамічных мадэляў, якія кіруюцца ў ручным рэжыме. Яе мы сёння і назіраем.

Абмяжуюся адным прыкладам. У Пасланні–2015 АП сярод пераліку асноўных мерапрыемстваў на бягучы год згадаў тры нарады, якія плануецца правесці «як пленумы ЦК калісьці праводзілі па найважнейшых, актуальных пытаннях нашага жыцця».

Адзін з "пленумаў" планавалася прысвяціць жыллёва-камунальным паслугам. Для яго падрыхтоўкі ўказам АП у лютым 2014 года была створана «адпаведная група» на чале з кіраўніком Камітэта дзяржаўнага кантролю. Яе першыя крокі актыўна абмяркоўваліся дзяржаўнымі СМІ. На непрацяглы час кіраўнік групы ператварыўся ў галоўнага ньюсмейкера краіны.

І што мы маем на выхадзе? Праз два гады на выхадзе мы маем абурэнне АП з нагоды сітуацыі з тарыфамі на ЖКП. Правядзенне неабходных разлікаў у тэрмін не перашкодзіла атрымаць вынік «з дакладнасцю да наадварот». 22 лютага, у поўнай адпаведнасці са схемай Віктара Дольніка, па іерархічнай лесвіцы зверху ўніз пабег сігнал. Вось як ён выглядаў пры перадачы ад АП да старшыні КДК: «Значыць, надзеньце кайданкі тым, хто не выканаў даведзеныя па майму загаду тарыфы. Надзеньце і публічна пасадзіце дзясятак-другі чалавек. Усё стане на свае месцы. Хопіць з імі жартаваць. Мы тут нешта лічым, плануем, а яны робяць усё па-свойму».

Новы тэрмін для падрыхтоўкі разлікаў — 1 сакавіка. Вясна наступіла сапраўды па раскладзе. Аднак усё на свае месцы так і не стала, магчыма, з прычыны дэфіцыту кайданак.

***

Уладная «вертыкаль» — няўстойлівая, як і кожная вертыкаль. Спрабуючы ўтрымаць раўнавагу, яна вымушана марнаваць усё больш часу і рэсурсаў на сябе, любую. Абслугоўванне інтарэсаў грамадства пры гэтым даводзіцца ажыццяўляць па рэштковым прынцыпе, што не выключае публічных абяцанняў АП «ніколі не адхіляцца ад таго, што абяцаў людзям».



# Хто даў, той і забярэ

Фота www.by.tribuna.com

**Юрый Чыж перастаў быў проста чалавекам, калі заплаціў свой першы буйны адкат, калі пайшоў на згоду з сумленнем, паціскаючы рукі тым, хто зрабіў з яго алігарха. Ён забыўся, што гэтыя рукі не толькі даюць, але і кайданкі чапляюць**

Аксана КОЛБ

**Тэма затрымання аднаго з самых уплывовых бізнесоўцаў Беларусі амаль адразу стала топавай. Асабліва пасля таго, як з'явілася навіна пра затрыманне аднаго з яго сяброў, гендырэктара групы кампаній «Сэрвалюкс» Яўгена Баскіна. Дасведчаныя людзі кажуць, што затрыманні працягнуцца.**

## Зноў версіі

Не ведаючы ўсіх складнікаў, не валодаючы інсайдарскай інфармацыяй, можна толькі выбудоўваць версіі, якія з рознай доляй верагоднасці будуць адпавядаць рэчаіснасці. А з улікам фантастычных расповедаў КДБ пра ўцёкі да мяжы, можна сказаць: пра дакладныя прычыны апалы Чыжа і кампаніі мы даведаемся ці пасля змены рэжыму, ці, магчыма, ніколі. Хаця пра штосьці зможам здагадацца, калі гэта справа дойдзе да суда (ці не дойдзе).

Свае версіі ўжо выказалі Аляксандр Фядута, Анатоль Лябедзька, Андрэй Клімаў і яшчэ шмат палітыкаў, аналітыкаў і экспертаў. Можна дадаць яшчэ і фантастычную — пра палацавы пераварот.

Час ад часу з'яўляюцца чуткі пра тое, што ў нетрах апарату рыхтуецца змена ўлады. Маўляў, уплывовым чыноўнікам, звязаным з буйным бізнесам, надакучыла хадзіць па лязе, і яны рыхтуюць глебу для замены непрадказальнага Лукашэнкі на свайго стаўленіка. Гэтыя чуткі асабліва актыўна ўсплываюць тады, калі фінансавае і эканамічнае становішча краіны рэзка пагаршаецца і вярхоўная ўлада пачынае шукаць адказных.

Можна колькі заўгодна выказваць аргументы за і супраць самога факту існавання чыноўніцкай змовы, але і цалкам адмаўляцца ад гэтай версіі ў сувязі з затрыманнем буйных бізнесоўцаў не варта.

Напрыклад, з улікам таго, што апошнім часам кантакты Чыжа з буйным расійскім бізнесам і чыноўніцтвам сталі больш шчыльнымі. Можна выказаць здагадку, што група беларускіх алігархаў пры падтрымцы Расіі вырашыла правесці змену ўлады. Магчыма, спачатку актыўна скарыстаўшы парламенцкія выбары. Аднак верагодныя і больш радыкальныя варыянты. Гэта версія можа часткова патлумачыць, чаму Чыжом займаецца менавіта КДБ.

Ці мае версія права на існаванне? Безумоўна, як і ўсе. Ці апраўдаецца яна? Хто ведае. Можа, праз пэўны час КДБ раскажа нам пра вялікую змову ворагаў народа, якія хацелі зрынуць законную ўладу, і для гэтага перадавалі сакрэтную інфармацыю праз схованкі на літоўскай і расійскай мяжы.

Так ці інакш, хутчэй за ўсё, затрыманні буйных бізнесоўцаў працягнуцца. Магчыма, паляцяць галовы і чыноўнікаў, якія іх лабіруюць. Чым усё гэта скончыцца, прагназаваць цяжка. Дакладна можна толькі сказаць: нам з вамі лепей не будзе.

## Толькі факты

Пакуль жа прапануем нашым чытачам паглыбіцца ў некаторыя факты з біяграфіі таго, каго яшчэ нядаўна называлі гаманцом Лукашэнкі.

Юрый Чыж нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Сабалі Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. У 1980 годзе адправіўся ў Мінск, дзе паступіў у ВНУ. Пасля заканчэння Беларускага політэхнічнага ўніверсітэта Юрый Чыж быў размеркаваны на Мінскі трактарны завод. Цягам наступных сямі гадоў па кар'ернай лесвіцы дайшоў да пасады начальніка энергаслужбы корпусу.

Пасля развалу СССР Чыж пачаў угаворваць кіраўніцтва прадпрыемства пераарыентавацца на выпуск новых тавараў, якія будуць мець рэальны попыт і, як вынік, прынясуць прыбытак у заводскую казну. Аднак яго не зразумелі, і Чыж напісаў заяву на звальненне. Пасля гэтага, як і многія, Юрый Чыж заняўся бізнесам.

Па яго словах, першы капітал ён зарабіў на пасярэдніцкай дзейнасці, аптовым гандлі і грузаперавозках. Гэтыя сродкі былі ўкладзеныя ў вытворчасць пластыкавых вокнаў і газаваных напояў. Той, хто памятае ўзлёты і падзенні бізнесоўцаў таго часу, адразу ўзгадае так званыя «камсамольскія грошы», якія, думаецца, згулялі сваю ролю ў бізнесе Чыжа.

Гісторыя «Трайпла» вядзецца з 1992 года, у 1994 годзе пачаўся выпуск шклопакетаў і вады «Акватрайпл». Вытворчасць прыносіла адчувальныя даходы. Кампанія Чыжа разрасталася. Самым буйным праектам таго часу стаў удзел у будаўніцтве Цэнтральнага чыгуначнага вакзала. Узвядзенне вакзала пачалося ў 1995 годзе і расцягнулася з-за праблем з фінансаваннем на 6 гадоў. «Трайпл» (пазней гэта падраздзяленне стане кампаніяй «Трайпл-тэхна») ва ўпартай барацьбе тады стаў пераможцам тэндэру, арганізаванага Будтрэстам № 7, на пастаўку шклопакетаў.

Ад 1997 года рост фірмаў Чыжа пачаў набываць буйныя маштабы: рэстараны (у тым ліку «Ракаўскі бровар») і забаўляльны бізнес, будаўніцтва, гандаль нафтай і нафтапрадуктамі, фармакалогія, вялікі спорт (яму належыць футбольны клуб «Дынама» і гарналыжны комплекс «Лагойск»).

У шырокіх колах пра Чыжа загаварылі ў 1999 годзе. Менавіта ў гэтым годзе генеральны дырэктар Вытворча-камерцыйнай фірмы «Трайпл» быў уключаны ўказам прэзідэнта ў самы першы ў гісторыі краіны Савет па развіцці прадпрымальніцтва. Пасля маштабнай чысткі 1996–1997 гадоў шэрагі бізнесу ў Беларусі істотна парадзелі, і ўладам спатрэбілася пляцоўка хоць для нейкага дыялогу. Створаную «ў мэтах аказання комплекснай дзяржаўнай падтрымкі развіццю суб'ектаў гаспадарання недзяржаўнай формы ўласнасці» структуру ўзначаліла Таццяна Быкава, а Чыж стаў яе адзіным намеснікам. У гэтым жа годзе Юрыю Чыжу даверылі футбольны клуб «Дынама-Мінск».

Пасля самай маштабнай чысткі бізнесу пасля выбараў 2001 года Чыж заняў месца старых гульцоў «Юколы», «Юрымекса», «Швебелы» і інш. Чыж стаў займацца пастаўкамі ў Беларусь нафты і рэалізацыяй нафтапрадуктаў унутры краіны і на экспарт.

Калі лепшыя нафтавыя гады скончыліся, пачаліся іншыя праекты — уласныя АЗС, пастаўка біяпаліва ва Украіну і ЕС (для гэтага быў набыты завод у Латвіі), пад выглядам растваральнікаў — бензіну ў Еўропу. Пікам у развіцці гэтага бізнесу магла стаць рэалізацыя кантракта ў сярэдзіне 2012 года з «Башнафтай», якой тады валодаў Уладзімір Еўтушэнкаў. Дакументам прадугледжваўся экспарт беларускай кампаніяй за мяжу нафтапрадуктаў на суму 4,36 мільярда долараў. Але з-за уведзеных у гэтым жа годзе супраць Чыжа і «Трайпла» санкцый Еўрасаюза кантракт застаўся на паперы.

Чыж стаў не проста набліжаным, а вельмі набліжаным да ўлады. Ён стаў нават партнёрам па хакейнай камандзе Аляксандра Лукашэнкі. Ён жыў побач з кіраўніком Беларусі, касіў з ім траву, збіраў кавуны, гутарыў з Колем.

Юрый Чыж удзельнічаў практычна ва ўсіх праектах гэтай улады: ад камерцыйнай забудовы Мінска да растваральна-разбаўляльных схем. Яму аднаму са свету бізнесу фактычна перадалі ў вотчыну родную вёску з трыма сотнямі гектараў наваколля.

Ён быў вышэйшы за Мінкульт, па яго слову зносіліся гістарычныя помнікі. І вышэйшы за Мінфін, бо меў доступ да самых льготных крэдытных ліній. Ён падпісваў шматмільярдныя кантракты, партнёрамі ў яго праектах былі не менш за пяць фігурантаў сусветнага спісу мільярдэраў Forbes.

Не так даўно высветлілася, што ў «Трайпле» ёсць доля вядомых расійскіх бізнесоўцаў. Іосіф Аксенцьеў і Міхаіл Маміяшвілі маюць па 16,75% у бізнесе Чыжа. Аксенцьеў (ён жа — Анзор Кікалішвілі) — вядомы дзеяч у свеце расійскага шоў-бізнесу і палітыкі. Некаторыя СМІ называлі яго «хросным бацькам рускай мафіі». Маміяшвілі — чэмпіён Алімпіяды–1988 і шматразовы пераможца і прызёр чэмпіянатаў свету і Еўропы па грэка-рымскай барацьбе. Цяпер ён узначальвае Федэрацыю спартовай барацьбы Расіі.

Добрыя сувязі ў Юрыя Чыжа ёсць і ў Казахстане. Ганаровым консулам Беларусі ў Алматы з'яўляецца Даўлет Турлыханаў — раней выбітны змагар, а цяпер буйны бізнесовец, якому належыць завод, дзе збіраюць беларускія трактары. Кажуць, Чыж падарыў свайму калегу на 50-гадовы юбілей шчодры падарунак. Сябруе Юрый Чыж і з яшчэ адным бізнесоўцам-спартоўцам, Кайратам Баранбаевым, які з'яўляецца ўладальнікам франшызы McDonald's у Беларусі.

Пра бізнес і сувязі Юрыя Чыжа можна пісаць яшчэ шмат. Вось толькі ці дапамогуць уплывовыя сябры і вялікія грошы пазбегнуць турэмных кратаў? Пабачым.

## Шкада — не шкада

Пасля затрымання Юрыя Чыжа можна было прачытаць шмат шкадаванняў на гэты конт. Маўляў, чалавек быў добры. Грошай не шкадаваў. Царкву аднаўляў, на лячэнне шмат каму ахвяраваў, увогуле шмат каго падтрымліваў. Не буду спрачацца. Як чалавека, можа і шкада.

Але Юрый Чыж перастаў быў проста чалавекам, калі заплаціў свой першы буйны адкат і захацеў чагосьці больш, чым хлеб з маслам, калі пайшоў на згоду з сумленнем і паціскаў рукі тым, хто фактычна рабіў з яго алігарха. Ён проста забыўся, што гэтыя рукі не толькі даюць, але і кайданкі чапляюць.

На што спадзяваўся Юрый Чыж, калі ўваходзіў у кола набліжаных? На тое, што ён самы разумны і здолее ўсё спрагназаваць? Што ён такі харошы, яго няма за што пасадзіць? Што ў яго такія патроны, якія ад усяго абароняць? Магчыма.

А магчыма, ведаў, як можа быць, але спадзяваўся праскочыць.

Таму алігарха Юрыя Чыжа мне не шкада. Трэба было лепш вучыць гісторыю ў школе.



Фота www.president.gov.by

Юрый Чыж жыў побач з кіраўніком Беларусі, касіў з ім траву, збіраў кавуны...

# Юбілей рэферэндуму:

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ,
кандыдат гістарычных навук

**Роўна 25 гадоў таму, 17 сакавіка 1991 года, у СССР адбыўся рэферэндум, на якім грамадзяне павінны былі вызначыцца наконт пытання: «Ці лічыце Вы неабходным захаванне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік як абноўленай федэрацыі раўнапраўных суверэнных рэспублік, у якой будуць у поўнай меры гарантаваны правы і свабоды чалавека любой нацыянальнасці?».**

«Парад суверэнітэтаў», які пракаціўся па краіне ў 1990 годзе, лішні раз пераканаў кіраўніцтва на чале з Міхаілам Гарбачовым у тым, што існаваўшая дагэтуль мадэль Савецкага Саюза канчаткова вычарпала сябе.

Таму ў высокіх чыноўніцкіх кабінетах быў сканструяваны новы фармат саюзных адносінаў, паводле якога паўнамоцтвы рэспублік істотна пашыраліся, а ў кампетэнцыі Цэнтра заставаліся такія ключавыя функцыі, як фінансы, абарона, шляхі зносін і г.д. Замацаваць гэты фармат меркавалася ў выглядзе новай дамовы паміж рэспублікамі, магчымай змены назвы краіны (Саюз Суверэнных Дзяржаў). Менавіта рэферэндум павінен быў надаць будучаму Саюзнаму дагавору адпаведную легітымнасць.



**Лідар БНФ, дэпутат Вярхоўнага Савета Зянон Пазьняк на пікеце супраць рэферэндуму на плошчы Леніна, 17 сакавіка 1991 г., Мінск**

Усенароднае галасаванне павінна было адбыцца паводле адмысловага закона «О всенародном голосовании (референдуме)» ад 27 снежня 1990 года. У Беларускай ССР на той час не было адпаведнага ўласнага закона. Ён з'явіцца толькі 13 чэрвеня 1991-га.

Як вядома, ад удзелу ў рэферэндуме адмовіліся прыбалтыйскія рэспублікі, а таксама Малдова, Грузія і Арменія.

Аднак у Беларускай ССР з рэферэндумам было не ўсё так проста.

22 студзеня 1991 года за ўнясенне пытання аб рэферэндуме ў парадак дня сесіі Вярхоўнага Савета прагаласавалі 166 дэпутатаў пры неабходным кворуме ў 174 чалавекі. Нягледзячы на высілкі старшыні Вярхоўнага Савета Мікалая Дземянцея і яго намесніка Васіля Шаладонава, неабходны кворум забяспечыць не ўдавалася. Тады Мікалай Дземянцей заявіў, што «мы вернёмся к рассмотрению, сегодня этот вопрос плохо подготовлен». Аднак у наступныя дні гэтая тэма больш не краналася кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета.

Унікальнасць сітуацыі была відавочна. Вярхоўны Савет Беларусі, які набыў імідж аднаго з самых кансерватыўных і пракамуністычных вышэйшых прадстаўнічых і заканадаўчых органаў у СССР, аб'ектыўна не падтрымаў рэферэндум. Безумоўна, сказаўся ўплыў рашучага праціўніка рэферэндуму — парламенцкай апазіцыі БНФ, якая ўдала ўздзейнічала на шэраг дэпутатаў, настройваючы іх супраць усенароднага галасавання.

Далей разыгралася амаль дэтэктыўная гісторыя. 26 студзеня ў рэспубліканскім друку з'явілася пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета «Об организации подготовки и проведения в Белорусской ССР референдума СССР по вопросу о сохранении Союза Советских Социалистических Республик», датаваная 21 студзеня 1991 года.

На той час Прэзідыум Вярхоўнага Савета складаўся са старшыні Вярхоўнага Савета, яго першага намесніка і намесніка, а таксама з двух дзясяткаў кіраўнікоў пастаянных парламенцкіх камісій.

29 студзеня 59 дэпутатаў, абураныя пастановай, звярнуліся да кіраўніцтва парламента з патрабаваннем даць адпаведныя тлумачэнні. Заяву, ініцыяваную апазіцыяй БНФ, падтрымалі нават тыя дэпутаты, якія не сімпатызавалі Фронту: Віктар Ганчар, Анатоль Лябедзька, Інэса Драбышэўская і інш. Заяву падпісаў дэпутат Яўген Новікаў, да нядаўняга часу — вядучы праграмы «Правы чалавека» і аўтар знакамітай байкі пра пацукоў, якіх быццам бы ядуць у ЗША.



У СМІ інфармацыя з-за супраціву ўладаў з'явілася са спазненнем, і 5 лютага 1991 года была надрукавана толькі ва ўласным органе Вярхоўнага Савета — «Народнай газеце».

У заяве сцвярджалася, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета, прыняўшы такую пастанову, груба парушыў Канстытуцыю, «фактычна падмяніў сабой Вярхоўны Савет і ўзурпаваў яго функцыі».

Падпісанты мелі рацыю. Згодна п. 21 арт. 97 Канстытуцыі БССР 1978 г. (са зменамі і дапаўненнямі 27 кастрычніка 1989 г.), прызначэнне рэспубліканскіх рэферэндумаў з'яўлялася выключна прэрагатывай парламента. Прэзідыум, у сваю чаргу, паводле п. 6. арт. 105 Канстытуцыі, толькі арганізоўваў падрыхтоўку і правядзенне рэферэндуму, г. зн. ажыццяўляў тэхнічныя функцыі.

Неправамернасць дзеянняў Прэзідыума пагаршалася яшчэ і тым, што пастанова была прынята ў час працы чарговай сесіі Вярхоўнага Савета.

Больш таго, 29 студзеня старшыня пастаяннай камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях, прадстаўнік БНФ Пётр Садоўскі абвінаваціў Прэзідыум, членам якога сам з'яўляўся, у фальсіфікацыі. Па словах Садоўскага, нягледзячы на тое, што пастанова была прынята 21 студзеня, на працягу 23–24 студзеня па апытальным спісе збіралі подпісы чальцы Прэзідыума. Гэта таксама было грубае парушэнне: рашэнні Прэзідыума, паводле Часовага Рэгламенту Вярхоўнага Савета ад 31 мая 1990 года, прымаліся выключна на яго пасяджэнні большасцю ад агульнага складу.

29 студзеня ў Вярхоўным Савеце напал дыскусій дасягнуў такой кропкі, што чалец парламенцкай апазіцыі БНФ Галіна Сямдзянава катэгарычна адмовілася пакінуць трыбуну. Тады Васіль Шаладонаў паставіў на галасаванне наступную прапанову: звярнуцца да выбаршчыкаў Галіны Сямдзяна-

# Таварыш Страх. Чаго баяцца чыноўнікі

Марыя БАРАВІК

**Беларуская сістэма ўлады амаль нічым не адрозніваецца ад савецкай. Ніякай ініцыятывы, падпарадкаванне інструкцыям, страх перад усім, што можна хоць нечым не спадабацца начальству. А раённыя чыноўнікі нагул баяцца ўласнага ценю, прычым больш, чым згубіць уласную годнасць.**

### Ветлівая згода

Мой знаёмы — малады кампазітар Максім Іўкін — патэлефанаваў: «Ці можна было б у Падсвіллі трапіць на сцэну — я прывёз бы свой гурт «Балцкі Субстрат»? Год жа культуры...»

І я ўжо мяркую, як ажыццявіць прапанову. Максім мне падабаецца як чалавек і творца — ведаю з часу універсітэцкай яго вучобы. Далей ён апанаваў марай і вучэбнай працай Акадэмію музыкі.

— Якую музыку піша Максім? — пытаюся ў дачкі.

— Спецыялізаваўся па фальклоры. Во — нядаўна чула дзве песні ля помніка Міцкевічу. Прыгожыя мелодыі.

Адразу разважаю: у Падсвіллі, у ДК, збіраюцца толькі на канцэрты мясцовыя. І святочныя. У школу запросім! Там глядач ёсць.

З арганізатарам пазашкольнага выхавання — Марынай Алегаўнай — дамовіліся імгненна. Адно яе зацікавіла — білеты. Дык білетаў не трэба. Канцэрт дабрачынны. І я ўжо ведаю, што слухаць канцэрт можна ў пятніцу, у гадзіну класнага часу. Застаецца перамовіцца, каб вызначыць дату.

Спыніліся на дні 12 лютага. Максім намерыўся ўвесь гурт не везці, спачатку паспрабаваць густ гледача. Папрасіў запрасіць каго з ДК, для азнаямлення, каб потым выйсці на большую сцэну. Ён карэктаваў праграму для старэйшых школьнікаў. А мяне не пакідала падрыхтоўчая трывога: сустрэць і настроем, і гледачом, каб збылася прыгажосць, у якую душа верыць. Я адклала свае юбілейныя творчыя падрыхтаванні і на працягу трох тыдняў перыядычна з'ялялася ў школе перад вачыма Марыны Алегаўны. У перадапошні дзень перад дырэктарам — Лідзіяй Іванаўнай, якая ні ў чым не сумнявалася, свяцілася з вачэй згодай і добрай душой.

Яшчэ б!.. Уся мая творчая праца жыцця — на вачах школы: у сустрэчах, у сувязях, у сяброўстве. Хоць школа і рускамоўная, але ж беларускай праграме мастацкага выхавання ніхто не пярэчыў. І наблізіўся дзень ушчыльную. Я зноў — да дырэктара. Падумала, што перад выступленнем госці не паспеюць да мяне на гарбату, дык запытаюся ў Лідзіі Іванаўны.

— Ды, безумоўна, не праблема — для двух чалавек...

Я і пра мікрафоны запыталася...

— У нас іх чатыры.

Выбягаю ўдзячная і радасная. Званю Максіму...

### І да дзвярэй не падыходзьце!

...Імжа. Мокрадзь. Звініць мабільнік. Вызваляю з рэчаў тэлефон...

— Извините, Мария Яковлевна! Вынуждена вас огорчить... Концерт не состоится!..

Добра, што — на каленях, нізка ля долу. Як іскрамётны слуп ударыў у свядомасць: змяшаліся думкі, пытанні.

— Што здарылася?.. Чаму?.. Як?.. За што такое?.. Здрада, забойства...

— Зачем они дали объявление на сайте БНФ, что едут, что пригласила школа?.. Затем напишете, что школа не приняла... В понедельник меня уволят с работы... если состоится концерт... Не приводите их в школу!! К двери не подходите!

— А куды весці? — крычыць мой адчай. —І што я ім скажу цяпер? Яны ж едуць ужо з Маладзечна, пазванілі... Разумееце? Едуць! Радасныя!! Дык мы ж усё роўна павінны да вас зайсціся за тлумачэннем... Мы прыйдзем у кабінет. Вы ім і скажыце прычыну...

— Ни за что не заходить!!

Я з калатнечай сэрца спрабую пераканаць:

— Які сайт?.. Гэта не БНФ!!! Нават, калі і БНФ, дык што? Ці мала хто і дзе піша!! Яны да гэтага не маюць ніякіх адносін. Што ж вы робіце са мной, з імі? На што гэта падобна?

Ніяк не магу зразумець стыхійную адмову. Пярун не з неба па мне, а са школы. І я — на прыступках Данілавай хаты. На Каляды тут, на кухні, смяротна заваліўся Антаніна Іванаўна. Хуткая дапамога не выратавала. Што яны робяць са мной? Што я зраблю з маімі спевакамі, калі праз гадзіну сустрэну іх на станцыі? Тры тыдні Максім быў на сувязі са мной, акрылены марай.

Але дзіва — я ўсё-ткі падніmaюся, выпростваю калені, хоць цела адчуваю мякка-хісткім. Бо мне на ўсе мае пытанні-супрацівы-мольбы — адно: не падыходзіць з маёй мастацкай камандай да дзвярэй школы.

Кіруюся (тут блізка) да Алесі Місевіч — прасіць, каб і яна не адмовілася, хоць бы прывесці іх да майго дому.

На другіх прыступках таксама званок. Зычны, выразны, хоць і расхваляваны, голас Марыны Алегаўны:

— Не в коем случае не ведите их в школу! И близко не подходите!

— І да агарожы? Дык што гэта сапраўды званок з аддзела?..

— Да!!! Прошу вас...

Мяне заўсёды просяць, і я не адмаўляю просьбам. Але тут ува мне — вар пратэсту ў разгары



# ці мог быць СССР іншым?

вай і асудзіць яе дзеянні. За гэта прагаласаваў 151 дэпутат пры кворуме ў 174 чалавекі. Інэса Драбышэўская, няглядзячы на тое, што сама падпісала заяву, прыгразіла Галіне Сямдзянавай камісіяй па дэпутацкай этыцы. У выніку трансляцыя пасяджэння была спынена на 10 хвілін.

У кантэксце будучага рэферэндуму Вярхоўны Савет у лютым распачаў абмеркаванне пытання аб Саюзным дагаворы. Тым больш, што мелася юрыдычная падстава: артыкул 11 Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі ад 27 ліпеня 1990-га прадугледжваў удзел рэспублікі ў распрацоўцы новага праекта Саюзнага дагавора.

Абмеркаванне праходзіла ў жорсткіх дыскусіях. Члены парламенцкай апазіцыі БНФ (Зянон Пазняк, Лявонцій Здaневіч, Лявон Баршчэўскі і інш.) катэгарычна выступалі супраць дагавора. Так, галоўны рэдактар газеты «Свабода» Ігар Германчук адзначыў нізкі прававы ўзровень праекта пастановы і параўнаў яго з публіцыстыкай. Дэпутат настойваў на сур'ёзнай перапрацоўцы тэксту праекта.

Іншыя дэпутаты, напрыклад, дырэктар БелАЗу Дзмітрый Сыракваш, лічылі, што «промедление с заключением договора смерти подобно».

19 лютага Вярхоўны Савет зацвердзіў пастанову «Аб канцэпцыі Саюзнага дагавора», паводле якой прызнавалася «целесообразным вхождение Белорусской ССР в состав Союза ССР с учетом преобразования его в подлинно демократическое правовое государство, основанное на добровольном объединении равноправных суверенных республик».

З мэтай папулярызацыі рэферэндуму ягоны ініцыятар Міхаіл Гарбачоў распачаў паездкі па краіне. У канцы лютага савецкі кіраўнік наведаў Беларусь і ў прамове перад прадстаўнікамі навуковай і творчай інтэлігенцыі перасцярог ад таго, каб вярнуць дзяржаўнасць у стан, які нагадваў бы часы Івана Каліты. Дэзінтэграцыя, сцвярджаў Міхаіл Гарбачоў, «вещь опаснейшая», і толькі вар'яты могуць падштурхоўваць да яе.

26 лютага ў выступе перад дэпутатамі Міхаіл Гарбачоў заклікаў іх «не поддаваться всяким дуновением ветров, держать курс и крепить силы Центра».

Напярэдадні, 17 сакавіка 1991 года, БНФ імкнуўся накіраваць грамадскую думку супраць рэферэндуму, ладзячы пікеты ля Дома Урада і друкуючы адпаведныя матэрыялы. Пэўны рэзананс, напрыклад, атрымаў артыкул прафесара Юрыя Хадыкі пад назвай «Ці жадаем мы гэтага?», які быў апублікаваны незадоўга да ўсенароднага галасавання ў «Народнай газеце». У артыкуле намеснік старшыні Сойма БНФ сцвярджаў, што рэферэндум — хітры ход наменклатуры, які толькі замацуе існуючую ўнітарную сістэму і пазбавіць Беларусь нават фармальных прыкмет суверэнітэту, якімі яна валодае ў якасці сябра ААН.

Дэпутат з апазіцыі БНФ Валянцін Голубеў рэзка выступіў супраць рэферэндуму па беларускім тэлебачанні ў праграме «Крок», за што вядучыя праграмы былі адхілены ад эфіру на тры месяцы.

Вынікі рэферэндуму былі спрыяльныя для саюзных уладаў: больш за 76% насельніцтва выказалася за захаванне Саюза ССР. У Беларусі гэты паказчык быў яшчэ вышэйшы і дасягнуў амаль 83%. Прадстаўнікі парламенцкай апазіцыі БНФ сцвярджалі, што ў час правядзення рэферэндуму мелі месца грубыя парушэнні заканадаўства. Так, Сяргей Антончык 18 сакавіка накіраваў у сталічную пракуратуру матэрыялы праверкі, паводле якой на ўчастку №17 г. Мінска выбаршчыкі нібыта атрымоўвалі па два і больш бюлетэні для галасавання.

24 сакавіка II З'езд БНФ зацвердзіў Зварот да народа Беларусі ў сувязі з рэферэндумам. У Звароце асуджаліся бяздумная паслухмянасць беларускага кіраўніцтва Крамлю, свядомая дэзарыентацыя насельніцтва ўладамі і г. д.

**Фота з уласнага архіву аўтара**




**Удзельнік пікету супраць рэферэндуму на плошчы Леніна, 17 сакавіка 1991 г., Мінск**

---

кіпення: што гэта за вар'яцтва?! Каму сказаць пра такое? Мільганула думка: музычная школа... Сябра ТБМ — Мікалай. Ён мне і кажа: «Дык у нас у школе, давайце ў пятнаццаць гадзін...» Вось, думаю, можа гэта ратунак? І, як за саломінку, хапаюся за прапанову.

## Нейкія бэнээфаўцы?

Сустракаю Максіма і Ганну. Ідуць насустрач ветлівыя — прыехалі. Максім — аж з Быхава. Ну, трэба ж неяк пазбавіць пра забойную непрыемнасць.

— Перамены нечаканыя ёсць — канцэрт будзе пазней на гадзіну і не ў той школе — у музычнай.

— Чаму? — Максім угледзеўся ў мяне незвычайна, разгублена. І я адчуваю сябе нібы вінаватай.

Кажу пра сайт БНФ. Сама ж здагадваюся, што гэта «Весткі...». І Максім:

— Я не дачыняюся да гэтага сайта, я не ведаю пра яго. Можа яны «Весткі...» блытаюць...

— Дык для чаго інтэрнэт, — разважаю, — каб баяцца сайтаў? Ці каб мець зносіны, ведаць пра падзеі, паведамляць пра свае цікавыя навіны?..

— Дык мы і напісалі на «Вестках...», бо сябры з Полацка хочуць пачуць канцэрт, прыедуць... А што цяпер рабіць, калі выступ у тры гадзіны? І як ім сказаць, дзе?..

Столькі разгубленасці і пытанняў наступіла! І я ведаю, што ніхто іх не будзе слухаць. І адказ ужо мне вядомы. І бяру смеласці, кажу гэта Максіму. А ён не можа ўцяміць абсурду.

— Што мы якія ў масках? Чаму нас не пускаць у школу? У Маскве, у Санкт-Пецярбургу выступалі, па ўсёй Беларусі ў розных раёнах. Во ў Параф'янаве нядаўна. Тут жа зусім побач. І нас прымалі ветліва.

Сапраўды, як уцяміш, калі пра гэта і не падазраваў, не рыхтаваўся да такога бязглуздага здарэння. Як мог падумаць выкладчык і кампазітар Максім Іўкін, што ў нашых закутках, кожны, хто глядзіць беларуска-расійскі канал, мае цвёрдую «дасведчанасць», што БНФ — дзікі звер. Ён тут ад пачатку рэвалюцыйнага перавароту — пудзіла для ўсіх, хто выпісвае раёнку для прагляду «Тэлетыдня». Або мае зусім ніякае ўяўленне. Ідзе, напрыклад, які незнаёмец-ветэран пры медалях па вуліцы Кастрычніцкай, а сусед кажа: «Вунь нейкі бэнээфавец пайшоў».

Бачна, што і для тых, хто нас не пусціў у школу, усе недзяржаўныя сайты — ёсць сайт БНФ.

У школе вывучаюць творчасць Быкава. І па ўсяму павінны ведаць, што пісьменнік стаяў у вытокаў БНФ. Таксама і Барадулін.

## Гасударавы людзі

Да дзвярэй школы мы ўсё ж прыйшлі. І нават за дзверы ступілі. Максім мне потым нагадаў, як заўгас пазваніла дырэктару: «Мы её задержали».

— Во дык Падсвілле! І вы тут жывяце, Марыя Якаўлеўна?

— Гэта званок у школу ўсё зрабіў. Дагэтуль жа мяне пускалі. Мабыць «Субстрат» спанталычыў? Ды яшчэ «балцкі»... Калі б гурт называўся — «Лявоны» ці «Матроны»?..

Максім усё ж азнаёміў Лідзію Іванаўну са зместам сайтаў. Надаў ёй нейкі спакой. Але ж выступ не адбыўся. І школа разнесла страх. Ні ў ДК, ні ў музычную школу, ні ў бібліятэку (з песнямі) не пусцілі.

Дырэктар ДК, якая з радасцю абяцала з'явіцца на канцэрт усім калектывам, суха і катэгарычна сказала: «Мы государевы люди». А Ірына Юр'еўна з музычнай: «У мяне, Марыя Якаўлеўна, — сям'я...»

Так трыумфальна пачаўся год культуры ў Падсвіллі Глыбоцкага раёна. І ніхто не ведае, якой культуры. Бо беларускую праграму не пусцілі.

## Хай будзе кватэрнік

І раптам з'явілася думка: кватэрнік! Абзваньваю зноў людзей: вярніцеся на канцэрт! Ужо да мяне. Званю, нават, і ў ДК. Прыйдзіце, маўляў, пазнаёміцца з рэпертуарам, хоць з адной песняй. Прапаноўваю Наталлі Казіміраўне. Але яна не загадчыца ўстановы. Тая абедала ў гэты час, і на мой званок адказала: «Не-не! У нас всё по договору. Почитать газетки могут, посидеть в зале — не больше».

Хто спужаўся, таму і да дому майго падыходзіць страшна. Толькі сябры ТБМ прыйшлі. І сябры сяброў.

... У Максіма выразная артыкуляцыя вуснаў, гука — віртуозная дзейнасць органаў мовы — танец языка, калі гэта вясёлы характар песні. Заліхвацкі гуляюць гукі. А калі душа ўздыхае — мелодыя, як хваля ў перакаце па берагавому пясочку.

У Любы Ягораўны вільгатнеюць здзіўленыя вочы, і яна прамаўляе: «Я, колькі жыву, не чула гэткага ў Падсвіллі. Галасавога вынаходніцтва. І вучняў пазбавілі магчымасці чуць гэткі спеў. Колькі страцілі дзеці! Максім, паўтарыце, калі ласка, першую песню».

Побач з Любай Ягораўнай сядзіць Тамара Васільеўна. У вачах — раніца. Нібы душа слухае салаўёў.

— Дзякуй, — кажа яна, — даруйце Падсвіллю гэтую сарамотнасць, што адмовілася даць вам сцэну.

Мар'ян кажа: «Во табе, Марыя, загаловак я прыдумаў: «Перапалох».

— Не, «Перастараліся», — прапаноўвае Люба.

## Страх не дазваляе

Страх не ўратуе жыццё. Не дасць вады, не ўвільгатніць, не змякчыць сухое, удушлівае дыханне, не выхапіць з агню... Знішчыць любоў і прыгажосць. Абразіць гонар, давер, зняважыць шчырасць і адкрытасць, адштурхне роднага, не пусціць на парог. Нават да агароджы. Забудзе пра абяцанне, пра адказнасць, пра гонар-званне чалавека слова.

Страшна, што страх не мае абмежавання. Страшна, што страх каменны. Сцяна! Шматсценка — Таварыш Страх. Ён не кіруе ў рэчышча выяўлення ісціны. Страх не дазваляе задумацца аб яго паходжанні. Аб вытоках.

У рабскім становішчы нападзе — Таварыш Страх. А чым не рабскае становішча ва ўсіх страхатворцаў і страхапераймальнікаў? Ім не дазволена быць разумнымі — самім выяўляць каштоўнасці. Яны вымушаны згаджацца са сваёй прыніжанасцю.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ШВЕЦЫЯ. Арктыку — арктычным народам!

На дэбаты ў Швецыі наконт перагляду гісторыі адносін шведаў да этнасу саамы, якія жывуць на поўначы краіны, неяк нервова адрэагавалі ў Расіі. У пачатку сакавіка Швецыю ўразіў адкрыты ліст аднаго архібіскупа, які заклікаў грамадства і дзяржаву прызнаць той факт, што Швецыя амаль 500 гадоў праводзіла адносна саамаў каланіяльную палітыку, якая ўключала не толькі культурную асіміляцыю праз прымусовае прыняцце хрысціянства, аднак нават элементы генацыду — медыкі выкарыстоўвалі саамаў для сваіх эксперыментаў. На думку архібіскупа, прыйшоў час не толькі папрасіць у саамаў прабачэння, аднак увогуле падумаць пра тое, каб надаць гэтаму народу права на самавызначэнне аж да права на стварэнне асобнай дзяржавы. Падавалася, да такой дыскусіі ў Расіі павінны ставіцца як мінімум нейтральна. Аднак у колах мясцовых імперцаў тут пабачылі адзнакі новага каварнага плану Захаду адабраць у Расіі багацце Арктыкі, за якія ў кантэксце глабальнага пацяплення пачынаецца барацьба паміж вялікімі дзяржавамі. Калі верыць імперцам, Захад збіраецца рабіць стаўку на стварэнне марыянетачных дзяржаваў розных паўночных народаў, каб яго рукамі захапіць Арктыку. Сапраўды, з пункту гледжання права, тубыльцы маюць больш падстаў, каб патрабаваць для сябе запалярны край.

**Паводле шведскай і расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Пра што размаўлялі Пуцін і Элтан Джон?

Жоўтая прэса Вялікабрытаніі нарэшце раскрыла тайну магчымай тэлефоннай размовы славутага музыкі, актывіста і змагара за правы сексуальных меншасцяў Элтана Джона з Уладзімірам Пуціным. Прыкладна пару месяцаў таму ў прэсу трапілі чуткі пра іх перамовы, ад чаго афіцыйны Крэмль рашуча адмовіўся. Пазней стала вядома, што гэта была правакацыя пранкераў, якія ад імя Пуціна дазваніліся да Элтана. І вось свежая версія, паводле якой размова ўсё ж мела месца. У яе рамках Пуцін, быццам, праз суразмоўцу прасіў данесці да каралеўскай сям'і інфармацыю пра тое, што Масква валодае тайнай смерці прынцэсы Дыяны. Калі верыць газетчыкам, Пуцін мае доказы таго, што забойства было арганізаванае брытанскай каронай, якая мела зуб на Дыяну ў тым ліку за яе планы раcпавесці грамадскасці таямніцы каралеўскай сям'і. Бульварная прэса прагназуе, што цяпер Лондан з-за страху перад публікацыяй кампрамату будзе вымушаны танчыць пад дудку Масквы. Больш салідныя медыя смяюцца з гэтай плёткі, паколькі тое ўжо не першая спекуляцыя вакол тайны смерці Дыяны.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Пачаўся чарговы крыжовы паход

Як вядома, у гісторыі было дзевяць крыжовых паходаў у Палесціну, апошні з якіх меў месца напрыканцы XIII стагоддзя. І, здаецца, днямі пачаўся дзясяты. Прынамсі на гэта спадзяецца 46-гадовы Хуан Сарыя (Juan Soria), іспанскі нацыяналіст, які заклікаў каталікоў усяго свету паўтарыць гераічны чын сваіх прашчураў — адправіцца на Усход ратаваць хрысціянства. На гэты раз, праўда, не ад сарацынаў, а ад «Ісламскай дзяржавы». Базай для неакрыжакоў абраная тэрыторыя іракскіх курдаў, якія змагаюцца з ісламістамі і дзе зараз знаходзіцца Хуан. Каб быць падобным на сапраўднага крыжака, аўтар ідэі нават змяніў прозвішча на больш сярэднявечнае — Манфарт (Monfort). Іспанская прэса з іроніяй каментуе заклік Сарыя-Манфарта і перспектывы яго крыжовага паходу. Прычыны такога стаўлення — мінулае галоўнага «крыжака». У Валенсіі, дзе раней жыў Хуан, ён вядомы як лідар неанацысцкай групоўкі, якую забаранілі за нелегальнае валоданне зброяй. Тым не менш, у Хуана з'явіліся прыхільнікі. Адзін з парыжскіх хрысціянскіх цэнтраў падтрымаў заклік Манфарта, і нават выдзеліў на крыжацкае войска тры тысячы еўра.

**Паводле іспанскай прэсы**

### РУМЫНІЯ. Пачалася праца з рускамоўнымі малдаванамі

Паводле інфармацыі малдоўскай прэсы, Бухарэст пачынае сістэмную працу з рускамоўным насельніцтвам Малдовы. Бліжэйшым часам будуць створаныя адпаведныя СМІ, у тым ліку тэлеканал. Асноўная задача канала, што будзе месціцца ў Румыніі, — супрацьстаяць прапагандзе расійскай прэсы, якая, калі меркаваць па рэйтынгах малдоўскіх прапуцінскіх партый, дастаткова эфектыўна стварае негатыўны імідж ЕС і працэсам еўраінтэграцыі. У ЕС спадзяюцца за кошт якасных рускамоўных праграм разбурыць антыеўрапейскія міфы. Між тым, існуе таксама думка пра тое, што стварэнне новых медыя з'яўляецца пралогам рэалізацыя т.зв. плану Саюз–2018. Быццам, праз два гады, у сотую гадавіну далучэння Малдовы да Румыніі, пачнецца рашучая фаза новай малдоўска-румынскай дзяржаўнай інтэграцыі. Рэалізацыя згаданага плана немагчымая без змены медыйных прыярытэтаў малдаўскай аўдыторыі. Апошняя тэорыя дастаткова смелая, асабліва з улікам таго, што два гады — вельмі малы тэрмін, каб радыкальна змяніць трэнды.

**Паводле малдоўскай прэсы**

# Рэйганы адказныя за СНІД

Алег НОВІКАЎ


Фота www.fakty.interia.pl

**Смерць Нэнсі Рэйган, жонкі былога прэзідэнта Рональда Рэйгана, узняла праблему адказнасці яго адміністрацыі за распаўсюд эпідэміі СНІДу.**

De mortuis et absentibus nihil nisi bene (пра нябожчыкаў або добра, або нічога), сцвярджае лацінская прымаўка. Магчыма, з гэтай устаноўкі сыходзіла Хілары Клінтан, калі прыпісала Нэнсі Рэйган, якая пайшла з жыцця 11 сакавіка, такую заслугу, як прыцягненне ўвагі да праблемы СНІДу. Хілары Клінтан заявіла: «Зараз немагчыма ўявіць, як было цяжка для людзей казаць пра праблему СНІДу ў 1980-х гадах. І дзякуючы ў прыватнасці Нэнсі Рэйган, мы пачалі нацыянальную размову на гэту тэму. І гэта тое, што трэба шанаваць. Тады людзі сталі казаць: «Эй, мы павінны зрабіць нешта таксама»…

Сентэнцыя Клінтан выклікала ў грамадстве сапраўдную буру. Шматлікія грамадскія і палітычныя арганізацыі абвінавацілі Хілары ў тым, што яна выдала кампліменты на адрас асобы, якая разам з мужам перш за ўсё адказная за выбух СНІДу ў Злучаных Штатах. Некаторыя дазволілі сабе вельмі катэгарычныя ацэнкі: «Калі сапраўды існуе пекла, то Рональд і Нэнсі дакладна знаходзяцца там». Так, у прыватнасці, заявіла адна з лідарак феміністкіх арганізацый, якая сцвярджае, што 40 працэнтаў яе сяброў памерлі ў 1980-я гады ад СНІДу.

Як і чым канкрэтна Рэйганы спрыялі распаўсюду сіндрому набытага імуннага дэфіцыту? Перш за ўсё, на думку рэйганафобаў, у Вашынгтоне пры Рэйгане праігнаравалі інфармацыю з Сан-Францыска ў 1981 годзе, адкуль прыйшлі першыя навіны пра незвычайную хваробу сярод мясцовых гомасексуалістаў.

Тое, што на гэта не звярнулі ўвагу, не было тэхнічным праколам у працы Дзяржадэпу. Рэйган прыйшоў да ўлады за кошт галасоў кансерватыўных амерыканцаў і, натуральна, не хацеў губляць свой электарат праз праяву інтарэсу да праблем «вычварэнцаў». Больш за тое, сярод часткі рэспубліканцаў была папулярна думка, што СНІД — нейкая Божая кара для вычварэнцаў, якую трэба негалосна вітаць. Некаторыя прадстаўнікі адміністрацыі нават жартавалі падчас прэс-канферэнцый, каментуючы навіны наконт росту смерцяў ад СНІДу. Варыянты, што ахвярамі вірусу могуць быць іншыя людзі, у атачэнні Рэйгана нейкі час проста не разглядаліся.

Дадатковы аргумент крытыкаў Рэйгана звязаны з тым, што прэзідэнту асабліва было ўласціва адмоўнае стаўленне да геяў. Напрыклад, ён стала выкрэсліваў з «чарнавікоў» сваіх выступаў усе пасажы, што тычыліся праблемы СНІДу і сексуальных меншасцяў. У 1985 годзе ён нават не адрэагаваў на смерць яго асабістага сябра ад СНІДу. Увогуле, толькі на шостым годзе свайго прэзідэнцтва Рональд Рэйган нарэшце выціснуў з сябе на публіцы слова «СНІД». На гэты момант ад вірусу ў ЗША памерлі каля 21–25 тысяч чалавек. Найбольш радыкальныя даследчыкі лічаць, што ў перспектыве канчатковая лічба ахвяраў рэйганаўскай палітыкі ў сферы СНІДу складае 600 тысяч чалавек.

Маўчанне і пасіўнасць Рэйгана спрыялі ксенафобіі. Усіх геяў і лесбіянак у грамадстве пагалоўна разглядалі як пераносчыкаў смяротнай інфекцыі,



**«…Мне вельмі шкада. Я памылілася»**

што выклікала сапраўдную масавую паранойю. Хворыя на СНІД фактычна апынуліся ў сацыяльнай ізаляцыі. Даходзіла да таго, што некаторыя шпіталі ўвогуле адмаўляліся прымаць хворых на вірус праз страх сапсаваць імідж установы.

Дэманстратыўнае ігнараванне праблемы СНІДу праяўлялася і ў бюджэтнай палітыцы. Справа не толькі ў тым, што пры Рэйгане актыўна скарачалася падтрымка аховы здароўя на фоне імклівага росту фінансавання сілавых ведамстваў. У дзейнасці дзяржаўных фондаў яшчэ існаваў негалосны прынцып — не падтрымліваць даследаванні ў галіне СНІДу. Толькі пры Клінтане, пасля заканчэння 12-гадовай кадэнцыі рэспубліканцаў у Белым Доме, у Вашынгтоне вырашылі правесці абследаванне і забяспечыць лячэнне ўсім амерыканцам, хворым на СНІД.

Пералічанае вышэй дае апанентам Рэйганаў катэгарычна заявіць вуснамі аднаго з грамадскіх актывістаў: «Нэнсі і Рон Рэйган былі функцыянальнай камандай у кіраўніцтве. Яны абодва адказныя за смерць тысяч людзей ад СНІДу ў ЛГБТ-супольнасці з-за іх бяздзейнасці ў 1980-х гадах».

У выніку пасля падобных заяў Хілары Клінтан вырашыла ўзяць свае словы пра заслугі Нэнсі Рэйган назад. «У той час, як пры Рэйганах праводзілі даследаванні ствалавых клетак і пошукаў лекаў ад хваробы Альцгеймера, я абмовілася пра тое, што яны дабіліся нечага ў барацьбе супраць СНІДу. Мне вельмі шкада. Я памылілася», — сказала Хілары.

На самай справе, цяжка сказаць, наколькі апраўданыя радыкальныя нападкі на Рэйганаў. Напрыклад, якраз пры Нэнсі і Рональдзе ў 1987 годзе федэральны ўрад пачаў рабіць замовы на фірмах, якія выраблялі прэзерватывы, для далейшага іх распаўсюду ў групах рызыкі. Адначасова дзяржава пачала падтрымліваць навуковыя медычныя даследаванні ў вывучэнні ВІЧ/СНІД.

Можна выказаць здагадку, што негатыўная рэакцыя наконт слоў Клінтан — шмат у чым следства больш глабальнай тэндэнцыі. Як пішуць палітолагі, Амерыка развіталася з рэйганаўскім дыскурсам, які панаваў у ЗША апошнія 25 год. Лепшыя маркеры крызісу спадчыны Рэйгана — поспех на цяперашніх праймерыз кандыдатаў Берні Сандэрса і Дональда Трампа, якія прапануюць радыкальныя палітычныя альтэрнатывы. Таму, думаецца, сапраўдны, пазбаўлены палітычнай кан'юктуры, вердыкт пра адказнасць Рэйганаў за эпідэмію СНІДу павінен быць зроблены пазней.

# Другое дыханне ГУАМ

Алег НОВІКАЎ

**На думку палітолагаў, расійска-турэцкі канфлікт прымушае Анкару больш актыўна гуляць на постсавецкай прасторы. Ёсць меркаванне, што Турцыя нават здольная надаць новае дыханне праектам, альтэрнатыўным СНД.**




Фота www.dosug.md

Супрацьстаянне з Расіяй прымусіла Турцыю шукаць рэгіянальных саюзнікаў, у тым ліку ў зоне СНД. Як следства, ужо паўстаў нефармальны турэцка-ўкраінскі саюз, які пакуль што праяўляецца ў выглядзе крытыкі крокаў Масквы як у Сірыі, так і ва Украіне. Аднак гэтым, падаецца, Анкара не абмяжавалася. Усё часцей Турцыя выказвае сваю пазіцыю па сітуацыі ў іншых постсавецкіх дзяржавах. Так, Расія, паводле нядаўніх слоў турэцкага прэм'ера, «ужо парушыла тэрытарыяльную цэласнасць Грузіі, а цяпер пад пагрозай знаходзіцца тэрытарыяльная цэласнасць Азербайджана з-за падтрымкі Масквой Арменіі».

Падобныя заявы дазваляюць шмат каму казаць, што Анкара пойдзе ў СНД далей за падтрымку Украіны і крымскіх татар. У прэсе гуляюць версіі пра тое, што Турцыя можа стаць магнітам для ўсіх палітычных рэжымаў, незадаволеных Расіяй і Пуціным, аж да рэанімацыі праекту ГУАМ.

Нагадаем, што ГУАМ як своеасаблівая субарганізацыя ўнутры СНД фармальна паўстала ўлетку 1997 года. Пад дакументам за стварэнне блоку, паставілі подпісы лідары Грузіі, Украіны, Азербайджану, Малдовы (з 1999 па 2005 год у арганізацыю ўваходзіў і Узбекістан, таму яна спачатку называлася ГУУАМ). Наступныя падзеі давялі, што ўстаноўчая хартыя ГУАМ, падпісаная ў 2001 годзе, была хутчэй агульнай дэкларацыяй пра намеры. Наладзіць сістэмную працу ўнутры блоку не атрымалася, хаця стварэнне ГУАМ віталі ў заходніх сталіцах, дзе марылі пра нейкае цеснае геаэканамічнае супрацоўніцтва дзяржаў, якія абралі дэмакратычны шлях развіцця. Пасля, у тым ліку ў рамках працы органаў ГУАМ, неаднаразова заклікалі надаць праекту новае дыханне, аднак безвынікова. Расійскія СМІ маюць тэндэнцыю ацэньваць ГУАМ як антырасійскі блок ці арганізацыю «аранжавых нацый», за якімі стаяць ЗША.

Актыўна казаць пра новае дыханне ГУАМ сталі пасля таго, як 19 лютага прайшла сустрэча кіраўнікоў МЗС Турцыі, Азербайджана і Грузіі. Каментуючы яе вынікі, расійская прэса прыйшла да высновы: «Падобна на тое, што турэцкая дыпламатыя спрабуе адрадзіць нешта накшталт блока ГУАМ як сістэмы перакрыжаванага ўзаемадзеяння краін, якія маюць складанасці ў адносінах з Расіяй» («Независимая газета»). З гэтым згодная армянская прэса. «Цяпер Анкара, якая стварыла ў нашым рэгіёне сетку Турцыя–Азербайджан–Грузія для расхіствання пазіцый Расіі, спрабуе сфармаваць кааліцыю Турцыя–Азербайджан–Украіна», — піша армянскае выданне «Панарама». У артыкулах на гэтую тэму таксама сцвярджаюць, што Берлін, які апошнім часам пасварыўся з Крамлём, мог бы выступіць нефармальным патронам такога аб'яднання.

Наколькі можна верыць у чуткі пра другое дыханне ГУАМ? З аднаго боку, Турцыя сапраўды мае някепскія стартавыя магчымасці для працы ў СНД, паколькі яшчэ з 1990-х гадах шчыльна працуе над праектам геапалітычнай інтэграцыі цюркскіх дзяржаў. Сярод сяброў цюркскага клубу — Азербайджан, плюс усе краіны Цэнтральнай Азіі, акрамя Таджыкістана. Аднак перафарматаваць цюркскі рух, які займаецца хутчэй прапагандай турэцкай культуры, у палітычны рух за ГУАМ будзе, відавочна, няпроста.

Не зразумела, хто гатовы запісацца ў такі блок на Каўказе. Афіцыйны Баку амаль год знаходзіцца ў стане халоднай вайны з ЕС, а ў кулуарах кангрэсу ЗША з'явіўся законапраект «Акт дэмакратыі ў Азербайджане» (HR 4264), які прадугледжвае ўвядзенне санкцый супраць Азербайджана. Хутчэй за ўсё, не гатовы да радыкальных крокаў і Тбілісі, дзе пануючая кааліцыя «Грузінская мара» жыве восеньскімі парламенцкімі выбарамі, ад вынікаў якіх залежыць яе лёс. Грузія прынамсі не будзе фарсіраваць падзеі, пакуль падвешаным застаецца пытанне вакол будучыні так званага «Карскага трактату», які ў тым ліку прызнае Аджарыю грузінскай тэрыторыяй. Як вядома, Масква пагражае выйсці з гэтай дамовы.

Аднак самая важная праблема вынікае з аналізу прычын правалу папярэдніх спроб наладзіць працу ГУАМ. Як піша ўкраінскі партал Kpunew: «Пасля заснавання ГУАМ вельмі хутка высветлілася, што для сапраўднага развіцця гэтай арганізацыі неабходныя не толькі агульныя

**Нягледзячы на ўпэўненыя заявы расійскіх палітолагаў пра тое, што шансаў у новага ГУАМ няма, усе яны выступаюць за сталы маніторынг сітуацыі, асабліва на Каўказе. Тут можа чакаць усяго чаго заўгодна з улікам калейдаскапічнай хуткасці развіцця падзей**

мэты ў частцы функцыянавання камунікацый. Неабходная была больш шырокая дзейнасць па ўзгадненні эканамічных і палітычных рашэнняў. Але на першых этапах краіны-чальцы блока не былі гатовыя да такога супрацоўніцтва, найперш па эканамічных прычынах. Эканамічныя магчымасці гэтых краін не дазволілі ім прапанаваць адна адной цікавыя праекты».

Адным словам, з-за шэрагу тэхнічных прычын хуткая рэанімацыя ГУАМ, напэўна, пакуль адкладаецца. Найбольш рэалістычным фарматам удзелу Турцыі ў рэгіёне СНД выглядае дыпламатычная і эканамічная падтрымка Кіева і розных крымска-татарскіх ініцыятыў, у тым ліку фармаванне асобнага батальёну, які будзе месціцца на мяжы Крыму. Таксама не выключана падтрымка апазіцыі ў расійскіх цюркскіх аўтаноміях. Так, расійская прэса сцвярджала, што турэцкія нацыяналістычныя партыі дапамагаюць маладым татарскім апазіцыянерам выдаваць сваю партыйную прэсу. Паколькі ўсё гэта на ГУАМ не цягне, некаторыя падазраюць, што расійская істэрыка вакол ГУАМ мае штучны характар, і яе мэта — падтрымаць патрыятычны ўгар у расіян.

Тым не менш, нягледзячы на ўпэўненыя заявы расійскіх палітолагаў пра тое, што шансаў у новага ГУМА няма, усе яны выступаюць за сталы маніторынг сітуацыі, асабліва на Каўказе. Тут можа чакаць усяго чаго заўгодна з улікам калейдаскапічнай хуткасці развіцця падзей.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Джасцін Трудо



Нядаўна абраны прэм'ер Канады наведаў ЗША, дзе спарадзіў феномен пад назвай «трудаманія» (trudueamania). Амерыканцы масава захапляюцца маладым ліберальным прэзідэнтам суседняй краіны. У гэтым плане цікава, што Джасцін шмат у чым эксплуатуе спадчыну свайго бацькі П'ера Трудо, які падчас свайго прэм'ерства ў 1960–1970-я быў вельмі папулярным сярод канадцаў. А вось у ЗША фігура бацькі П'ера Трудо асаблівага захаплення не выклікала, што тагачасныя палітолагі тлумачылі знешнепалітычным курсам Атавы, якая крытыкавала вайсковую авантуру ЗША ў В'етнаме. Цяпер вайны ў В'етнаме няма, затое ў ЗША з'явіўся правы папуліст, кандыдат у прэзідэнты Дональд Трамп, антаганістам якога знешне выступае якраз канадскі палітык. Менавіта з'яўленне ў амерыканскай палітыцы Трампа абумовіла цяперашняе масавае захапленне амерыканцаў Трудо. У гэтым плане «трудаманія» для некаторых — вельмі пазітыўны сімптом, паколькі сведчыць пра наяўнасць у амерыканскім грамадстве моцнага ліберальнага рэсурсу. Што да Трудо, дык ён працягвае свой незвычайны палітычны курс, які не можа як мінімум пакідаць абыякавым. Напрыклад, днямі канадскі ўрад вырашыў змяніць дызайн канадскіх банкнотаў, паколькі на купюрах, на думку прэм'ера, занадта мала выяваў жанчын.

### Нурсултан Назарбаеў



Прэзідэнт Казахстана асабіста наведаў першы ў краіне рэстаран McDonald's, што стала падзеяй нацыянальнага маштабу і нанесла моцны ўдар па рэпутацыі казахскай вертыкалі. Нагадаем, што ў сакавіку Казахстан стаў 120-й дзяржавай у свеце, дзе з'явіўся клоун Рональд, да якога хутка ў госці прыйшоў сам прэзідэнт. Візіт Елбасы ў McDonald's выклікаў шок нават сярод лаяльнай часткі насельніцтва. Справа не ў тым, што па сутнасці гэта была папулісцкая акцыя: Назарбаеў абяцаў за кошт будаўніцтва сеціва рэстаранаў McDonald's стварыць новыя працоўныя месцы і практычна вывесці краіну з эканамічнага крызісу. Шмат каму не спадабалася, што прэзідэнт рэкламаваў фаст-фуд, які ва ўсім свеце лічыцца не вельмі карыснай ежай. Мясцовыя нацыяналісты крытыкуюць Назарбаева за тое, што ён асабіста падтрымлівае іншаземную кухню. Яны заклікаюць да таго, каб у казахскіх McDonald's прадавалі традыцыйныя стравы казахаў, у тым ліку кумыс і стравы з каніны. Аднак самае галоўнае — гісторыя з паходам Назарбаева ў McDonald's прадэманстравала штучнасць казахскага парламентарызму. Як вядома, 23 сакавіка ў Казахстане пройдуць парламенцкія выбары, аднак, як высвятляецца, інтарэс да гамбургераў сярод казахаў значна вышэйшы за галасаванне, вынікі якога, дарэчы, вядомыя ўжо загадзя.

### Вінфрэд Крэчман



Лідар філіялу нямецкай партыі «Зялёныя» ў зямлі Бадэн-Вюртэмберг аказаўся героем парламенцкіх выбараў, якія прайшлі ў трох землях 13 сакавіка. Пад кіраўніцтвам Крэчмана эколагі дабіліся гістарычнай сенсацыйнай перамогі — упершыню ў гісторыі «Зялёныя» на ўзроўні зямлі набралі больш галасоў за іншыя партыі. За выбарчы спіс «Зялёных» прагаласавала 30 працэнтаў, у той жа час як за хрысціянскіх дэмакратаў Ангелы Меркель, якія раней кіравалі зямлёй, — каля 29 працэнтаў. Поспех «Зялёных», якія стала выступаюць за дэмакратычныя каштоўнасці, дазволілі немцам лягчэй перажыць траўму, выкліканую трыумфальным шэсцем правых папулістаў з партыі «Альтэрнатыва для Германіі». Правыя папулісты прайшлі ва ўсе тры ландтагі, дзе адбыліся выбары. І цяпер маюць трэція па колькасці дэпутатаў фракцыі. Практычна не выклікае сумневаў, што на федэральных выбарах у наступным годзе «Альтэрнатыва для Германіі» таксама пройдзе ў Бундэстаг. Хаця разлічваць на міністэрскія партфелі з-за свайго экстрэмісцкага іміджу ўльтраправыя нідзе не могуць, але на агульную палітычную дыскусію іх поспехі яўна паўплываюць. Што да Крэчмана, дык яго прэм'ерства ў Бадэн-Вюртэмбергу не гарантаванае. «Зялёным» будзе цяжка арганізаваць прыемную для сябе кааліцыю. Таму не выключана, што кансерватары і далей застануцца пры ўладзе, а сенсацыйная перамога «Зялёных» не будзе мець наступстваў.

18 сакавіка 2016 | № 11 (476) Новы Час

# Знявечаныя лёсы жыхароў Брэста

«Вораг народа», «здраднік», «данос» — гэтыя словы пачалі ўваходзіць у жыццё жыхароў Заходняй Беларусі амаль адразу пасля верасня 1939-га. Пра лёсы людзей, якія трапілі пад рухавік рэпрэсій, няшмат звестак можна знайсці і ў архівах, тым больш, што пасля пачатку 1990-х іх зноў зачынілі. Мы прапануем вам нарысы Зінаіды Дудзюк, матэрыялы для якіх яна збірала ў сярэдзіне 1990-х гадоў у тым архіве, куды цяпер дзверы шчыльна зачыненыя і нікога не пускаюць. Пры гэтым Зінаіду папярэдзілі, што матэрыялы нельга выкарыстоўваць у дакументальных творах, пакуль не пройдзе тэрмін захоўвання тайны. Гэты тэрмін скончыўся. Прапануем вам першы з нарысаў.



Вучні міжваеннага перыяду

## Пільная піянерважатая

Зінаіда ДУДЗЮК

**Кожны з жыхароў Брэста па-свойму любіць горад, ведае яго сцішана-прасветлым раніцай, стомлена-заклапочаным увечары, яскрава-асветленым у святы. Мы звыкаем да добрых перамен і радуемся ім. Аднак у горадзе засталося шмат даваенных будынкаў, толькі падчас рамонту ці рэканструкцыі раптам праяўляецца нейкі надпіс на польскай мове. Занятым будзённымі турботамі, нам няма калі задумацца, якія людзі жылі да нас, што думалі і перажывалі. Яны сышлі, сплылі з вірлівай плынню часу, і толькі ў нейкім таемным архіве іншы раз можна сустрэць звесткі пра іх. Тое-сёе мне ўдалося адшукаць, таму і хачу падзяліцца з чытачамі некаторымі сціплымі звесткамі.**

Верасень 1939 года прынёс у Брэст вялікія перамены. Пасля таго, як адшумеў парад нямецкага і савецкага войска на галоўнай плошчы і вуліцы горада, усталявалася ўлада рабочых і сялян. Праўда, увасаблялі яе людзі, накіраваныя сюды Масквою.

Пачалася бязлітасная «зачыстка» Брэста і ваколіц, праводзілася нацыяналізацыя прадпрыемстваў, крамаў, гатэляў. Чыноўнікаў, служачых, уладальнікаў маёмасці і зямлі вывозілі ў Сібір на перавыхаванне. Але ў горадзе заставалася шмат звычайных людзей, якім таксама новыя парадкі не падабаліся. Адны трывалі, іншыя думалі, якім чынам памяняць месца жыхарства, а задзірыстая моладзь імкнулася дабіцца справядлівасці. Новая ўлада таксама не драмала і вышуквала ўсялякія магчымыя варожыя элементы.

За сухімі словамі пратаколаў і паказанняў, якія трапляліся ў архіве, — людзі: здраднікі і патрыёты; ахвяры і каты. Вось як гэтыя.

12 лютага 1940 года па заяве старшай піянерважатай Літвінавай быў арыштаваны Андрэй Казіміравіч Цыпрынскі, вучань сёмага класа школы № 21, 1925 года нараджэння, які жыў у Брэсце, на вуліцы Кілінскага, дом 7. Ягоная маці Марыя Станіславаўна, 32-гадовая хатняя гаспадыня, мела яшчэ і сямігадовага сына Яцэка, бацька — афіцэр Войска Польскага — памёр у 1936 годзе. У сям'і жыў брат маці — 30-гадовы Мечыслаў Шаманскі і бабуля Шаманская (50 гадоў).

Пятнаццацігадовага Андрэя абшукалі і знайшлі пры ім фінскі нож, фотаапарат «Кодак», план горада Брэста і каляндар. На допыце запатрабавалі назваць сяброў. Хлопец пералічыў некалькі аднакласнікаў: Бражынскі, Брудовіч, Гашэўскі, Жук... Пацікавіліся, ці ведае Усевалада Казлоўскага, сына ўладальніка фотаатэлье. Андрэй адказаў, што знаёмы з гэтым хлопцам, бо ў 1939 годзе разам былі ў харцэрскім летніку.

Пачалося следства. Найперш выклікалі даць паказанні заяўніцу — старшую піянерважатую школы № 21 Літвінаву Антаніну Іванаўну, 1915 года нараджэння, украінку, сялянку-бяднячку. Антаніна была замужам. Яе муж — Ветраў Яўген Яфімавіч, вайсковец, меў адукацыю восем класаў. Быў камсамольцам з 1931 года. Літвінава заявіла, што вучні Цыпрынскі, Бартушык, Радзевіч і іншыя ўсяляк стараліся зрываць палітычна-масавыя мерапрыемствы ў класе, якія яна праводзіла. У адну з нядзель зусім кінулі школу, а хатняя работніца Цыпрынскіх казала, што Андрэй і іншыя збіраліся ісці за Буг, а перад гэтым абяцалі парэзаць яе на кавалкі. Яны нібы мелі вінтоўку, ручныя гранаты і патроны, якія яна сама бачыла. Паводзіны сям'і выглядалі вельмі падазронымі, асабліва пасля арышту Андрэя.

Наступнай паказанні павінна была даваць служка Цыпрынскіх. Батурына Людміла Іванаўна, 1912 года нараджэння, адукацыя — шэсць класаў, ураджэнка Масквы, якая прыехала ў Брэст у 1939 годзе, зрабіла такія сведчанні: «Сям'я Цыпрынскіх пры мне варожа выказвалася пра СССР, распускала хлуслівыя чуткі і ўзводзіла паклёп на Чырвоную Армію і савецкіх грамадзян. Яны закапалі зялёную скрынку з патронамі за хлявом, пра што я сказала Літвінавай Антаніне Іванаўне і яе мужу Ветраву, якія таксама жывуць у доме №7. Я прасіла іх паведаміць у НКУС».

20 лютага 1940 года ў кампетэнтныя органы паступіў чарговы рапарт, у якім паведамлялася: «Мы жывём на вул. Кілінскага, 7, у гаспадыні Цыпрынскай Марыі Станіславаўны... Уся сям'я варожа ставіцца да Савецкай улады. Па словах хатняй работніцы Батурынай, пасля высылкі леснікоў і асаднікаў Цыпрынскія схавалі патроны, а Мечыслаў двойчы нелегальна хадзіў за мяжу. Гаспадыня заявіла: «Няхай яго (сына) лепш заб'юць на мяжы, чым я аддам яго служыць у Чырвоную Армію». Андрэй казаў, калі палякі прыйдуць да ўлады, дык ён будзе сячы рускіх кацапаў. Уся сям'я па вечарах па радыё слухае замежныя перадачы. Пасля таго, як арыштавалі Андрэя, Цыпрынская хадзіла ў НКУС, дзе ёй сказалі, што сына яе забралі праз Літвінаву Антаніну, якая на яго падала матэрыял. Цыпрынскія вырашылі ўцякаць за мяжу, але спярша адпомсціць усім, хто жыве на кватэры». Пад рапартам стаялі подпісы Івашкова і Ветрава.




Галоўная алея гарадскога парка, дзе любіла бавіць час моладзь Брэста

Сям'я Цыпрынскіх, пазбаўленая сродкаў да існавання, выжывала тым, што трымала кватарантаў, а яшчэ Мечыслаў Шаманскі нелегальна хадзіў праз мяжу, купляў у Варшаве рэчы і прадаваў іх на рынку ў Брэсце. На гэтыя грошы яны ўтрымлівалі служанку Батурыну, якая і стала прычынаю іхніх няшчасцяў. Безумоўна, Мечыслаў Шаманскі таксама атрымаў належнае як варожы і шкодны элемент.

Расследаванне справы Андрэя Цыпрынскага цягнулася доўга. З абвінавачага заключэння вынікае:

«Произведённое по делу следствие установило, что Ципринский является участником контрреволюционной молодёжной повстанческой организации, существующей в Бресте, ставящей своей целью путём вооружённого восстания свергнуть Советскую власть на территории западных областей Белорусской и Украинской ССР и восстановления фашистской Польши. Имея ненависть к Советской власти, Ципринский будучи учеником 21-й школы г. Бреста, срывал политические мероприятия, проводимые в школе, вынашивал террористические намерения в отношении партийно-советского актива. В контрреволюционных целях пытался совершить нелегальный переход границы из СССР в Германию».

7 мая Андрэй Цыпрынскі вымушаны быў прызнацца, што з'яўляецца ўдзельнікам контррэвалюцыйнай арганізацыі, куды быў завербаваны ў лістападзе 1939 года Генрыхам Лагузінскім. У той жа час Лагузінскі заявіў, што не мог завербаваць Андрэя, бо быў тады ўжо арыштаваны. З-за гэтай супярэчнасці справа двойчы вярталася на дадатковае расследаванне.

Нарэшце 12 верасня 1940 года ў Мінску адбыўся суд, выпіска з пратакола №148167 па справе №57860 загадвала:

«Цыпрынскага Андрэя Казіміравіча за ўдзел у антысавецкай паўстанцкай арганізацыі заключыць у папраўча-працоўную калонію тэрмінам на 5 гадоў, лічыць тэрмін з 17 лютага 1940 года».

У папцы па гэтай справе на асобнай старонцы змешчана даведка аб рэабілітацыі, якая сведчыць:

«Цыпрынскі Андрэй Казіміравіч падпадае пад дзейнасць артыкула №1 Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 15.01.1989 года аб дадатковых мерах па аднаўленні справядлівасці ў адносінах да ахвяр рэпрэсій, якія мелі месца ў 30–40-х і пачатку 50-х гадоў».

Невядома, ці дачакаўся Андрэй Казіміравіч Цыпрынскі рэабілітацыі, ці выжыў падлетак на цяжкай паднявольнай працы, дзе мала хто з дарослых вытрымліваў. Калі ж выжыў, дык цяпер яму дзевяноста. Выдатны ўзрост, але мала каму шчасціць дачакацца такога юбілею.

Безумоўна, Андрэй Цыпрынскі быў ні ў чым не вінаваты, калі не браць пад увагу нездаволенасць новай уладай, але такіх, як ён, было шмат. Іншыя маладыя людзі з-за юначай адкрытасці, упартасці і самаўпэўненасці і не спрабавалі хаваць сваіх варожых адносін да новай улады. Але пра гэтых наіўных патрыётаў — наступным разам.

# Хай будзе на пацеху Маскве

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Кароткае жыццё Кастуся Каліноўскага абарвалася ў 10.30 раніцы 22 сакавіка (па новым стылі) 1864 года на шыбеніцы на Лукішскай плошчы ў Вільні. Якія былі апошнія думкі Каліноўскага? Магчыма, ён згадаў напісаны незадоўга да арышту ліст да свайго сябры Длускага, у якім пракрэсліў: «Пакуль Бог ахоўвае, а калі прыйдзецца павіснуць, дык хай будзе на пацеху ўсім літоўскім панам і прасветлай Маскве».**



Фота www.pieramoha.org

## Ігнат Вітажэнец

У Віленскім палацы генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва 9 лютага (па новым стылі) у 9 гадзін вечара атрымалі шыфраваную тэлеграму, якая ўскалыхнула сталіцу Паўночна-Заходняга краю.

Гэта было паведамленне з Мінска ад жандарскага палкоўніка Лосева, у якой гаварылася: «На Святаянскай вуліцы ў Святаянскіх мурах жыве злачынец Каліноўскі, ваявода, пад імем Вітажэнец...» Паліцыя была паднятая па трывозе. Па атрыманым ад здрадніка Вітольда Парфіяновіча адрасе неадкладна выправіўся палкоўнік М.А. Саранчоў.

Улады не ведалі толькі нумара кватэры, у якой спыніўся Каліноўскі. Саранчоў асабіста прагледзеў дамавую кнігу мяркуемага месца жыхарства «дыктатара Літвы», але з-за спешкі не знайшоў сярод запісаных прозвішча Вітажэнца. Было прынята рашэнне ачапіць увесь Святаянскі квартал, для чаго спатрэбіліся дзве роты салдат.

Цёмная зімовая ноч. Каліноўскі ў сваім пакоі ў доме Віленскай гімназіі не спаў, перабіраў паўстанцкія дакументы. За дзвярыма ўсё гучней і гучней сталі разносіцца чыесьці мітуслівыя крокі. Кастусь схаваў паперы, узяў са стала знічку і выйшаў у калідор. Спускаючыся па лесвіцы, агеньчык выхапіў два салдацкія цені. Каліноўскі не разгубіўся, і пасля зададзенага пытання: «Як Вашае імя?» спакойна адказаў: «Вітажэнец». Тое, што адбылося далей, лідар паўстання ў Беларусі і Літве не чакаў — яго схапілі. З рук выпала знічка і тут жа згасла, а яго, напаўраспранутага, пацягнулі ўніз.

Каліноўскі быў дастаўлены ў Дамініканскі будынак, дзе засядала Асобая следчая камісія пад старшынствам палкоўніка Шалгунова. Яго змясцілі ў камеру № 3. Легенду на выпадак арышту Кастусь прыдумаў загадзя, і таму падчас першага начнога допыту спакойна адказваў, што ён Вітажэнец з дваран Віленскага ўезда. У паўстанні, сапраўды, прымаў удзел, знаходзіўся ў атрадзе Віслаўха, але нядоўга — толькі лета і частку восені — да кастрычніка. Цяпер жа «займаўся распрацоўкай матэрыялаў гістарычных характараў славянскіх народнасцей».

Але Каліноўскі быў апазнаны Марыяй Грагатовіч, у якой жыла адна з паўстанцкіх сувязных — Стэфанія Фальская, да якой наведваўся Кастусь. Пасля гэтага хаваць сапраўднае прозвішча не мела сэнсу. У гэты час на кватэры ў Віленскай гімназіі, дзе хаваўся Каліноўскі, памочнікі прыставаў Сеташэўскі і Вішнеўскі «рабілі найпільнейшы і паўсюдны ператрус». Была знойдзена вялікая колькасць папераў, перададзеных калежскаму саветніку А. Лапцеву — чыноўніку для асобых даручэнняў пры Мураўёве. Далейшы лёс гэтых папер, да сёння невядомы. Але самыя важныя дакументы захоўваліся ў полай ножцы стала. Іх забрала ўдзельніца паўстанцкай арганізацыі віленская настаўніца Яцына Караліна, якая дачакалася заканчэння ператрусу. На наступны дзень, спахапіўшыся, рускія жандары ўжо нічога не знайшлі.

## «Каго любіш?»

Каліноўскі назваў сваё сапраўднае імя і пасаду ў рэвалюцыйнай арганізацыі 10 лютага. Ён пачаў даваць паказанні, якія некалькі разоў за час следства мяняў, блытаў, так і не назваўшы нікога са сваіх падначаленых, якія яшчэ знаходзіліся на волі і мелі час уратавацца. 14 лютага ў Віленскай асобай следчай камісіі падрабязныя паказанні пачаў даваць Вітольд Парфіяновіч, якому Мураўёў дараваў не толькі жыццё, але і вызваліў ад вочнай стаўкі з Каліноўскім. На адной і той жа старонцы сваіх паказанняў Парфіяновіч здаў Кастуся і адначасова ўвекавечыў яго імя ў айчыннай гісторыі, назваўшы пароль паўстанцаў: «Каго любіш? — Люблю Беларусь! — Так узаемна!».

Кастуся намагаліся зламаць разнастайнымі спосабамі, тэрарызуючы пытаннямі нахонт знаёмства з сям'ёй яго нарачонай Марысі Ямант, якую таксама арыштавалі і змясцілі ў будынку насупраць бернардынаў — у былым кляштары місіянераў. 21 лютага ў бітве пад Апатавым Сандамірскага ваяводства быў схоплены яго сябар Людвіг Звяждоўскі, якога пакаралі смерцю, аб чым неадкладна паведамілі Кастусю. Але ён не здаўся. Надышла чарга вочных ставак, якія змяняліся адна за адной. Спачатку Браніслава Сідаровіч, з якой Каліноўскі адначасова ў канцы 1862 года жыў на кватэры ў Грагатовіч, і якая «не ведала» Каліноўскага. Затым 2 сакавіка спатканне з арыштаваным камісарам Мінскага ваяводства Міхалам Аскеркам. Але і Аскерка адмаўляў знаёмства з Каліноўскім, з якім, насамрэч, яны былі блізкімі сябрамі.

## Шпіёнства апаганьвае чалавека

Пасля чарговых спробаў націснуць на Кастуся пагрозамі на адрас сям'і Ямантаў, ён 10 сакавіка, так нікога і не выдаўшы, зрабіў у следчай камісіі заяву, што «шпіёнства апаганьвае чалавека», што грамадства, пабудаванае на асновах шпіёнства, «не вартае гэтай назвы», і адмовіўся ад далейшых паказанняў: «Прычыны і вынікі мной добра абдуманы, а ўсведамленне гонару, уласнай годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляюць мне ісці па іншаму шляху».

Таму на наступны дзень Асобая следчая камісія вырашыла скончыць следства над Каліноўскім і накіравала свой даклад і следчую справу Мураўёву, які патрабуе паўстанца «аддаць ваеннаму суду і скончыць гэты суд за трое сутак». На думку камісіі, Каліноўскі — «адзін з самых адданых справе паўстання і найбольш дзейных яго кіраўнікоў у тутэйшым краі». Цікавасць да яго асобы была настолькі вялікай, што да яго шматразова наведваліся многія расійскія чыноўнікі, набліжаныя Мураўёва. Сярод іх малады А. Масолаў, для якога Каліноўскі запомніўся як «моцнага складу і з тварам жорсткім і выразным, кароткія русыя валасы былі зачэсаны назад».



## Я не праціўнік шчасця народнага

Ужо па заканчэнні следства Каліноўскі напісаў некалькі запісак, якія маглі б патлумачыць яго асабістыя погляды на Паўстанне. Але з іх захавалася толькі адна, напісаная 12 сакавіка, у якой ён адзначыў: «Я не праціўнік шчасця народнага, не праціўнік і Расіі, калі яна дабра нам жадае, але праціўнік тых бедстваў, якія пасягаюць наш край няшчасны». У апошніх радках ён пакідае сабе права «цешыць сябе надзеяй, што аднавіцца народнае дабро. Дай Бог толькі, каб для дасягнення гэтага нашчадкі нашыя не пралівалі лішняй братняй крыві».

Адначасова Каліноўскі праз цётку Марысі Ямант — Ядвігу Макрыцкую падтрымліваў ліставанне са сваёй нарачонай і перадаваў на волю зрабіўшыя яго неўміручым «Лісты з-пад шыбеніцы». У іх паказвалася, «як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў і паўстанне польскае, чаго яны хочуць і чаго па сваей сіле дабівацiся будуць».

13 сакавіка ў 10 гадзін раніцы пры Віленскім ардананс-гаўзе быў распачаты суд, які быў толькі фармальнай справай. Каліноўскі падпісаў усе прапанаваныя яму дакументы, адзначыў, што не мае прэтэнзій да членаў суда і больш не можа нічога дадаць у сваю абарону. Затым запоўнілі пратаколы і на гэтым скончылі. Ужо на наступны дзень, 14 сакавіка, Каліноўскаму быў вынесены прысуд: «За прыняцце звання члена рэвалюцыйнага камітэта Літвы і пасля таго галоўнага распарадчыка паўстання ў тутэйшым краі, а разам з тым за здраду дзяржаве, схіленне да бунта жыхароў... пакараць смерцю — расстраляць». Але 16 сакавіка Каліноўскаму замянілі меру пакарання на павешанне, падкрэсліўшы яго імкненне працягнуць паўстанне вясною 1864 года. 17 сакавіка Мураўёў вызначыў месца пакарання — Вільня.

Апошнія дні свайго жыцця Каліноўскі знаходзіўся пад наглядам генерал-лейтэнанта А.С. Вяткіна. Менавіта камендант накіраваў 21 сакавіка віленскаму каталіцкаму дэкану, прэлату А. Нямекшы звычайную для такога моманту просьбу: прыслаць на наступны дзень на 7 гадзін ранка ксяндза. Ён павінен быў падрыхтаваць і суправаджаць Каліноўскага на смерць. Але дыктатар паўстання адмовіўся ад дапамогі: на смерць, да якой даўно рыхтаваўся, ён павінен ісці адзін.

## У нас няма дваран, усе роўныя!

1864-ы. Сакавіцкі ранак. Вільня. Надвор'е халоднае, але яснае. Да Лукішскай плошчы з розных куткоў горада і навакольных вёсак брылі людзі, утвараючы бліжэй да пляца суцэльны натоўп. Адны з іх пахілілі галовы ў жалобе. Тут жа чародкі жанчын з мокрымі ад слёз пачырванелымі вачыма. Другія ледзь валаклі ногі: на іх тварах адначасова і разгубленасць, і спалох, быццам толькі цяпер зразумелі, што згубілі нешта, страчанае ўжо даўно, — хіба надзею? Трэція свяціліся прадчуваннем блізкага відовішча. Чацвёртыя выпраменьвалі чорнае святло нянавісці. Але ўсе прысутны былі стомленыя чаканнем гэтага Рубікону, фіналу расцягнутай трагедыі пад назваю «Паўстанне».

Пасярод людскога мора — лысіна з адзінока тырчэлай у яе цэнтры шыбеніцай, што парыпвала маладым дрэвам, ад якога так прыемна пахла. І толькі салдаты не давалі магчымасці жывым хвалям з усё падыходзячых і падыходзячых людзей паглынуць гэты астравок смерці.

Раптам па людскіх шэрагах паляцелі сарваныя з чыйхсьці вуснаў словы: «Круль Літвы, Круль Літвы». З боку Дамініканаў рухаўся вялізны канвой, распіхваючы людзей, а тыя позіркамі шукалі дзесьці сярод іх абрысы сталага ўжо жывой легендай Кастуся. Пакуль яшчэ жывой.

І якім жа было расчараванне натоўпу, калі на памост шыбеніцы ўзышоў сярэдняга росту малады чалавек, са злёгку растрапанымі, зачасанымі назад валасамі. Такі падобны на тых, хто глядзелі на яго вялізнымі вачамі, яшчэ чакаючымі нейкіх цудаў. Няўжо гэта ён, хто прымушаў працаваць усю паліцыю краю, кінутую на яго вышук? Няўжо ён, хто трымаў у страху здраднікаў? Няўжо ён, хто падтрымліваў апошняе вуголле згаслага паўстання?

Каліноўскі стаў тварам да шыбеніцы, раз за разам адпраўляючы доўгія позіркі ў людское мора, быццам кагосьці шукаючы. Ці не сваю каханую?

Загучалі барабаны. Натоўп ахінула цішыня. Пачуліся словы прысуду, якія Каліноўскі разбаўляў кароткімі каментарамі і ў канцы на «Дваранін Вікенцій Каліноўскі» прамовіў вечныя: «У нас няма дваран, усе роўныя!»

Чытанне прысуду скончылася. Каліноўскаму на шыю кат надзеў вяроўку. Кастусь глядзеў на натоўп, з нейкаю ўпэўненасцю і веданнем чагосьці, пакуль яшчэ недасяжнага гэтым людзям. І на памяць нам.

# Мова гэта яшчэ і танцы

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Чарговай тэмай заняткаў «Мова нанова» ў Мінску 14 сакавіка сталі народныя танцы. Запрошаныя госці — выхаванцы Школы традыцыйнага мастацтва гурта «Гуда» — паказалі і распавялі, як танчыць у беларускай традыцыі.**



У беларускіх дыялектах для азначэння працэсу танца выкарыстоўваліся нароўні з дзеясловамі «танчыць» і «танцаваць» яшчэ «скакаць» і «плясаць». Звычайна «скокі» — гэта танцы з імправізацыяй.

І для танцавальнай тэхнікі, і для народнага этыкету істотна было, як чалавек рухаецца ў танцы. Трэба танчыць, па-першае, на паўсагнутых нагах, поўных ступаках, не на мысочках. Такі рэжым танцу досыць энергаэканомны і дазваляе танчыць па некалькі гадзін. Рукі ў беларускай традыцыі высока не падымаліся, але яны і не віселі. Для азначэння паставы рук этнахарэограф Сяргей Выскварка карыстаецца выразам «паветра пад пахамі».

Вось як пра танцавальную манеру распавядала Пелагея Гальчэня з вёскі Пласток Любанскага раёна (бабуля 1910 года нараджэння): «Каб ног высока нявеста не задзірала, каб грудзямі не трэсла, ды азадкам не круціла, каб кавалер — як струнка, каб умеў падтрымаць партнёрку і сам задаваць тон. Каб не кідаў партнёрку адну, бо нават у сольных танцах патрэбна было прытрымлівацца пары. Трэба так танцаваць, каб чуб не трэсся, а то баба не ўмее танцаваць, дык трэпле спадніцаю».

Іншаземныя танцы, якія прыходзілі на тэрыторыю Беларусі, асіміляваліся і станавіліся як родныя. Напрыклад, «Кракавяк» ды «Абэрак» у Беларусі танчацца па-свойму, зусім не так, як у Польшчы. Чэшская «Полька», відаць, наклалася на ранейшую беларускую «Трасуху» ды іншыя старажытныя танцы, бо выдатна прыжылася на беларускай глебе. Прыдворныя еўрапейскія кантрдансы, трапіўшы ў беларускую вёску, сталі кадрылямі, а бальны танец «Мініён» — «Мільёнам».

Танцы выконвалі істотную сацыяльную функцыю: падчас вечарын магла кантактаваць між сабой моладзь. Праўда, адбывалася ўсё ў межах прыстойнасці: дзе ж там разыдзешся, калі старэйшыя сядзяць на лавах, глядзяць. Калі дзяўчына ці хлопец не ўмелі танчыць, кантакт з супрацьлеглым полам ускладняўся. Былі яшчэ працоўныя зборышчы моладзі, вячоркі — там моладзь магла кантактаваць амаль без нагляду дарослых. Але ж адна справа — пагутарыць, а патанчыць — зусім іншая. Даводзілася чуць ад жанчын 1920–1930-х гадоў нараджэння, маўляў, як патанчыш з хлопцам, дык адразу і закахаешся.

І ў сучасным горадзе знаходзяцца аматары традыцыйных танцаў, якія імкнуцца выканаць іх аўтэнтычныя варыянты, пазбегнуць стылізацыі. Сярод найбольш цікавых асяродкаў ды ініцыятыў, акрамя згаданай Школы гурта «Гуда», можна назваць капэлу «На таку» і танцавальны клуб «Сіта» ў Мінску (але вечарыны ладзяць па ўсёй Беларусі), фэст традыцыйнай культуры «Пятровіца» ў Любанскім раёне (кожны год за некалькі дзён да 12 ліпеня, калі адбываецца кульмінацыя фэсту), фестываль фальклорнага мастацтва «Берагіня» (раз на два гады ў пасёлку Акцябрскі Гомельскай вобласці).

Асяродкі, што займаюцца аднаўленнем традыцыйных танцаў і музыкі, ёсць і ў іншых еўрапейскіх краінах: Літве, Польшчы, Расіі.

**Фота Адаркі Яцэвіч**








## Названае журы Прэміі Гедройца

**Сёлета ў журы Літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца ўвайшлі:**

- **Ігар Бабкоў** — беларускі празаік і філосаф, лаўрэат Прэміі Гедройца 2014;
- **Анджэй Бжэзецкі** — польскі журналіст, аўтар кніг пра Беларусь, галоўны рэдактар часопіса «Nowa Europa Wschodnia»;
- **Сяргей Дубавец** — беларускі пісьменнік, журналіст;
- **Малгажата Ноцунь** — польская журналістка, аўтарка кніг пра Беларусь, намесніца рэдактара часопіса «Nowa Europa Wschodnia»;
- **Людміла Рублеўская** — беларуская пісьменніца, літаратурны крытык;
- **Ганна Янкута** — беларуская перакладчыца, літаратурны крытык.

У адпаведнасці са статутам прэміі Гедройца, журы абіраецца камітэтам, у які ўваходзяць старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, а таксама асоба, якую яны выбралі з сябраў журы мінулых гадоў. Сёлетні камітэт: Андрэй Хадановіч, Барыс Пятровіч і Уладзімір Арлоў.

Поўны спіс твораў будзе абвешчаны ў канцы сакавіка. Уручэнне прэміі адбудзецца ў верасні.

Прэмія імя Ежы Гедройца ўручаецца з 2012 года. Папярэднія пераможцы: Павал Касцюкевіч з кнігай «Зборная РБ па неалоўных відах спорту» (2012), Уладзімір Някляеў з кнігай «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» (2013), Ігар Бабкоў з кнігай «Хвілінка: Тры гісторыі» (2014), Віктар Казько з кнігай «Час збіраць косці» (2015).



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 254

Падпісана да друку 18. 03.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.